№ 14 (947) 13 красавіка 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». **Старонка 2.**

## Святлана Алексіевіч выступіць у Палацы Рэспублікі



Праўда, у малой (500 месцаў) зале.

Радыё «Свабода» і Саюз беларускіх пісьменнікаў правядуць урачыстую прэзэнтацыю кнігі "Алексіевіч на Свабодзе" ў малой зале Палаца Рэспублікі **14 красавіка а 16-й.**

# Беларускі цуд

## Ніводзін з запланаваных паказчыкаў пяцігодкі не выкананы

Улада рыхтуецца да правядзення «Пятага ўсебеларускага народнага сходу». Ён мае прайсці ў канцы мая — пачатку чэрвеня. Праўда, хоць ён і называецца народным, на ўсенародных выбарах яго дэлегатаў ніхто не абірае. Там збяруцца пераважна чыноўнікі.

І чыноўнікі пад яго рыхтуюць праграму развіцця краіны на чарговую пяцігодку. Нафта, спадзяюцца яны, будзе каштаваць $65 за бараль. А рост ВУП у 2020 годзе складзе 3,5%, мяркуюць яны.

Але заглядаючы наперад, варта спачатку азірнуцца назад. Чым скончылася папярэдняя пяцігодка? Ніводзін з запланаваных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі не выкананы. Ніводзін!

Меркавалася, што за 2010—2015 валавы ўнутраны прадукт павялічыцца на 62—68%, аднак па факце ён вырас толькі на мінімальныя 5,9%. Калі ўлічыць інфляцыю, прыпіскі і статыстычныя памылкі, лічы, застаўся, які быў.

Недастаткова павялічыліся прамысловая вытворчасць, прадукцыйнасць працы, рэальныя даходы насельніцтва.

Апошнія пяць гадоў можна назваць перыядам застою.

Беларусь усё больш адстае ад Літвы і Польшчы, суседніх краін, з якімі мы мелі аднолькавыя стартавыя пазіцыі ў 1990-я. Яны забяспечылі не толькі сваю незалежнасць, але і бяспеку, і дабрабыт людзей.

**Ягор Марціновіч**





## «Спеўны сход» спадзяецца сабраць тысячу чалавек для выканання гімна «Магутны Божа»

«15 красавіка 1000 чалавек (спадзяёмся) разам у новай прасторы «Верх» (900 квадратных метраў) будуць спяваць «Пагоню» Багдановіча і «Магутны Божа» Арсеннеvай», — піша ў сваім фэйсбуку кіраўнік культурніцкай ініцыятывы «Арт-сядзіба» Павел Белавус.

Чарговы «Спеўны сход» будзе прысвечаны беларускім песням першай паловы XX стагоддзя.

Прастора «Верх», плошчай 900 м², размясцілася на 6-м паверсе будынка завода «Гарызонт» на Куйбышава, 22.

Чарговы «Спеўны сход» мае стаць рэкордным па колькасці ўдзельнікаў і спевакоў.

Арганізатары абяцаюць развучваць і спяваць таксама «Беларускую Марсельезу», ваяцкі марш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ды іншыя песні.

Вядзе «спеўныя сходы» Сяргей Доўгушаў. Дапамагаць яму гэтым разам будзе мужчынскі хор «Унія».

Дзякуючы таленту Доўгушава, на «спеўных сходах» ствараецца непаўторная атмасфера нацыянальнага адзінства.

**Сяргей Гезгала**

**Адрас: Мінск, вул.Куйбышава, д. 22, 6-ты паверх, прастора «Верх». 15 красавіка (пятніца) а 19.00. Уваход вольны!**

## Макей: Трэба глядзець дэ-факта, чый Крым сёння

і захаваць цэласнасць астатняй часткі Украіны. **Старонка 3.**

## Не стала Змітра Саўкі

Выдатнаму мовазнаўцу было толькі 50. **Старонка 12.**

## Пошліны на замежныя пасылкі

Як і каму прыйдзецца плаціць? **Старонка 8.**

## З маці ліцвінкі

Знойдзеныя новыя дакументы, якія ўдакладняюць радавод Адама Міцкевіча. **Старонка 14.**

# Ва усходняй Беларусі ад рэгістрацыі шлюбу да нараджэння першага дзіцяці ў сярэднім праходзіць месяц, у заходняй — 11 месяцаў

Пяць незвычайных статыстычных гісторый і тэндэнцый за 2015 год.

Белстат апублікаваў дадзеныя аб узросце ўступлення ў шлюбы і нараджэння дзяцей у Беларусі за 2015 год.

Прааналізаваўшы статыстычныя звесткі, можна адсачыць сярэднестатыстычны жыццёвы шлях беларуса і беларускі.

### Першы шлюб

Беларуская жанчына першы раз ідзе ў ЗАГС у сярэднім у 25,5 года.

У вёсках нявесты звычайна на паўгода маладзейшыя. Што да рэгіянальных адметнасцяў, то берасцейкі і гарадзенкі бяруць шлюб на год раней за сярэднюю лічбу, а мінчанкі — на год пазней.

Яе абранніку 27,5 года.

І ў вёсках, і ў гарадах лічба амаль нязменная, узрост адрозніваецца ўсяго на месяц. Рэгіянальныя традыцыі захоўваюцца: заходняя Беларусь рэгіструе адносіны раней, сталічныя жаніхі марудзяць.

### Першае дзіця

Наколькі адрозніваецца ўзрост заключэння шлюбу і ўзрост нараджэння першага дзіцяці?

Часам гэтыя лічбы не звязаныя між сабой, бо некаторыя дзеці нараджаюцца па-за шлюбам. Але ў большасці выпадкаў (80—85%) дзеці нараджаюцца ў поўных сем'ях.

У сярэднім праз паўгода пасля заключэння шлюбу ў маладых сем'ях нараджаецца першае дзіця — маці ў гэты час роўна 26 гадоў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Але гэта як сярэдняя тэмпература па бальніцы — настолькі адрозніваецца сітуацыя па рэгіёнах.

У кансерватыўных Брэстчыне і Гродзеншчыне паміж шлюбам і нараджэннем дзіцяці праходзіць 10—11 месяцаў.

На Міншчыне лічба складае 6 месяцаў, на Віцебшчыне — 3,6 месяца.

А вось на Гомельшчыне і Магілёўшчыне нявесты часцяком едуць адразу з ЗАГСа ў раддом — ад рэгістрацыі першага шлюбу да нараджэння першага дзіцяці ў сярэднім праходзіць месяц.

І толькі мінчукі нікуды не спяшаюцца — да нараджэння першага дзіцяці праходзіць каля 15 месяцаў.

### Чарговыя папаўненні

Калі бацькі плануюць папаўненне сям'і, то другое дзіця нараджаецца прыблізна праз дзве гады пасля першынца.

Трэцяе і чацвёртае дзіця паспявае нарадзіцца, калі маці 30—34 гады (часцяком гэта ўжо не першы шлюб). Да саракагадовага ўзросту з'яўляюцца на свет пятае і шостае дзіця. Але такія выпадкі, зразумела, вельмі рэдкія.

### Развод

Другі распаўсюджаны шлях разгортвання сітуацыі — развод.

Па стане на мінулы год на кожныя пяць шлюбаў рэгістраваліся два разводы. Найпрацей расстаюцца са сваімі абраннікамі ў Мінску, найменш разводзяцца зноў жа берасцейцы і гарадзенцы.

Белстат падае дадзеныя аб разведзеных парах толькі ва ўзроставым дыяпазоне. Калі перанесці гэтыя лічбы на графікі, атрымаецца, што сярэдні ўзрост разводу для жанчын складае каля 28 гадоў, а мужчын — каля 31 года.

### Паўторны шлюб

Калі беларусы і рашаюцца на другі шлюб, то ідуць у ЗАГС даволі хутка.

Найбольшай долі мужчын, якія ўзялі шлюб пасля разводу, — каля 33 гадоў.

Жанчыны ж бяруць трохі больш часу на роздумы. На рэгістрацыю другога шлюбу яны прыходзяць у сярэднім у 31 год.

Варыянт, калі беларусы заключаюць шлюб пасля смерці першага спадарожніка жыцця, не ўплываюць на агульную карціну — такіх выпадкаў было ўсяго каля 3% ад усіх шлюбаў.

Ягор Марціновіч

**Бывае і так**

1. Жыхарка Брэсцкай вобласці да наступлення 18 гадоў паспела выйсці замуж, развесціся і зноў пабрацца шлюбам.
2. 7% шлюбаў, зарэгістраваных летась, былі паміж грамадзянамі Беларусі і замежнікамі. Варыянтаў «замежнік+замежніца» налічылася каля 300, сярод іх 28 выпадкаў шлюбаў паміж рускімі і ўкраінцамі.
3. У гарадах анулююць шлюбы ўдвая часцей, чым у вёсках.
4. Жанчыны ў 5,5 раза радзей за мужчын скончвалі жыццё самагубствам — 268 супраць 1449.
5. Летась у ЗАГСах краіны налічылі 90 непаўналетніх жаніхоў і 767 непаўналетніх нявест.

**Не зломіш!**

**«Падарожжа дылетанта» адраджаецца ў інтэрнэце**

12 красавіка стартаваў сайт *Zhygamont.by*, на якім будуць з'яўляцца новыя выпускі папулярнай краязнаўчай праграмы. Доўгі час «Падарожжы» выходзілі на БТ, пакуль праграму не зняў з эфіру сумнавядомы Азаронак. 12 красавіка на сайце з'явіўся новы выпуск «Падарожжа» пра вёску Тракелі Воранаўскага раёна.

Таксама кожны зможа зняць мабільнікам свой сюжэт пра родныя мясціны і даслаць на сайт.

СМ

## Сцісла

**У Сірыі разбіўся расійскі верталёт**

У выніку крушэння баявой машыны Мі-28Н загінулі два члены экіпажа. Прэс-служба Мінабароны РФ сцвярджае, што верталёт не быў збіты, але падрабязнасцяў не паведаміла.

**Былы галоўны следчы Мінска 10 гадоў хаваўся ў Расіі**

У Мінскім абласным судзе пачаўся працэс у дачыненні да былога намесніка начальніка папярэдняга следства ГУУС Мінгарвыканкама Георгія Жука. Палкоўнік міліцыі абвінавачваецца ў тым, што ў 2005 атрымаў хабар у 80 тысяч даляраў. Гэта было, калі Жук быў выканаўцам абавязкаў начальніка.

Жук увесь гэты час хаваўся ў Расіі, і ў 2015 быў затрыманы на тэрыторыі РФ. Падсудны віну не прызнае. Сцвярджае, што сведкі далі супраць яго ілжывыя паказанні.

**Ашуканец падманваў даверлівых грамадзян проста ў чарзе па валюту**

Упраўленне Следчага камітэта па Мінску расследуе крымінальную справу на жыхара Оршы, 1987 года нараджэння, які падазраецца ў махлярстве. У чарзе ў пунктах абмену валют малады чалавек прапаноўваў ашчадзіць час і абмяняць грошы па больш выгадным курсе. Пры разліку ён перадаваў грошы ў рукі суразмоўцу, даючы пераканацца, што тут уся абумоўленая сума. Затым забіраў грошы, абяцаючы дадаць «працэнты», і вяртаў. Пазней грамадзяне высвятлялі, што іх падманулі і грошай далі значна менш. Падазраваны быў затрыманы.

СМ; naviny.by

## Апытанне на nn.by

**Як па-Вашаму, Еўропа гіне ці квітнее?**

| | | |
|---|---|---|
| Гіне | 349 | 14% |
| Квітнее | 339 | 14% |
| Гіне, але прытым квітнее | 235 | 9% |
| Часткова гіне, часткова квітнее | 311 | 13% |
| Дай божа нам так гінуць... | 1249 | 50% |

Усяго прагаласавалі 2483 чалавекі.

## Самае чытанае на nn.by за 6 — 12 красавіка

# Макей: Трэба глядзець дэ-факта, чый Крым сёння

…і захаваць цэласнасць астатняй часткі Украіны.



Міністр замежных справаў Беларусі Уладзімір Макей даў маштабную прэс-канферэнцыю ў офісе выдання «Россия сегодня» ў Маскве. З Мінскам быў наладжаны тэлемост. Адбывалася гэта пасля пасяджэння рады міністраў замежных справаў СНД. Варта адзначыць, што Макей адказваў на пытанні больш за гадзіну. Гаворка тычылася шмат чаго — ад Крыма да беларускай мовы.

«Паміж Беларуссю і Расіяй супярэчнасцяў у замежнапалітычным кірунку няма. Хаця асобныя крокі і рашэнні сталі абрастаць міфамі і трактоўкамі. Сустрэча важная, каб расставіць кропкі над «і», — сказаў напачатку Уладзімір Макей.

### Мы зыходзім з таго, чый Крым дэ-факта

«У палітыцы трэба зыходзіць з рэалій. Наш прэзідэнт ужо некалькі разоў выказваўся на гэтую тэму, што мы павінны зыходзіць з таго, чый на сёння дэ-факта Крым. І выбудоўваць палітыку і ўзаемадзеянне з імі.

У нас з Крымам, дарэчы, і ў мінулыя часы, і цяпер гандлёва-эканамічныя адносіны развіваліся не вельмі. Можа быць, праз лагістыку ці нейкія іншыя аспекты. Турысты з задавальненнем наведвалі і, напэўна, будуць наведваць гэты куток. Бо там сапраўды прырода цудоўная і ўмовы для адпачынку.

Што датычыць прызнання-непрызнання, то Крым — гэта не дзяржава, якую трэба прызнаваць. Ад нас ніхто і не патрабуе прызнання.

Мы зыходзім з таго, чый Крым сёння дэ-факта. Гэта не значыць, што мы з чымсьці згодныя ці з чымсьці нязгодныя. Мы лічым, што цяпер галоўная задача — гэта захаваць тэрытарыяльную цэласнасць і непарушнасць астатняй часткі Украіны. І для гэтага мы прадставілі перамоўную пляцоўку».

### Асаблівай пазіцыі па Нагорным Карабаху ў Беларусі няма

«Ніякай асаблівай пазіцыі Беларусі па Нагорным Карабаху няма і не было. Мы лічым, што спрэчныя моманты трэба вырашаць за сталом перамоваў, а не стрэламі. Для нас азербайджанскі і армянскі народы — браты. Мы хацелі, каб яны знайшлі шляхі рашэння за сталом перамоваў. Тыя ці іншыя дзяржавы спрабуюць трактаваць міжнародны дамовы як хочуць. Нехта кажа, што нам важная тэрытарыяльная цэласнасць. Нехта — права нацыі на самавызначэнне. Самае важнае — забяспечыць мірнае жыццё жыхароў».

### Беларуская мова — мова нашай нацыі

«Калі нас папракаюць, што мы займаемся антырусіфікацыяй, то гэта абсалютна не мае глебы пад сабой. У нас дзве дзяржаўныя мовы. Аднак так склалася гістарычна, што мы больш гаворым па-руску. Беларуская — гэта мова нашай нацыі. Мы не тое што павінны забываць яе, але і развіваць».

### У нас ёсць помнікі і Сувораву, і Каліноўскаму

«Мы не перапісваем падручнікаў. Так, мы скарэктавалі іх зыходзячы з нейкіх новых момантаў, звязаных з набыццём незалежнасці краіны. Але гісторыя і памяць для нас святая.

Мы не знеслі і не збіраемся зносіць ніводнага помніка. Так, у нас ёсць розныя погляды ў бачанні гісторыі. Хтосьці называе ці хацеў бы называць Суворава «вешальнікам», хтосьці называе Каліноўскага «нацыяналістам, які змагаўся за няправільныя ідэі». Ідзе нармальная спрэчка ў грамадстве.

Я, напрыклад, нарадзіўся, жыў і працаваў у калгасе імя Суворава. Помнікі Сувораву да сёння стаяць і глядзяць на нашы населеныя пункты. Гэтаксама ў нас стаяць помнікі Каліноўскаму.

Не камні вінаватыя ў нашых бедах і недахопах, а людзі».

### Пра беларускія ківі і крэветкі

«Тавараварот з Расіяй упаў на 30%, нягледзячы на санкцыі на еўрапейскія тавары. Але мы дамаўляліся, што падставім плячо Расіі і наросцім пастаўкі ў Расію малака, мяса. Мы не завалілі Расію беларускімі таварамі. Беларускія ківі, крэветкі? Мы дамовіліся, калі тавар перапрацоўваецца ў Беларусі, то ён лічыцца беларускім. Гэта дамоўленасць паміж двума бакамі».

### Пра развіццё беларуска-еўрапейскіх адносін

«Мы знаходзімся ў цэнтры Еўропы, мы тут і застанёмся. З Расіяй нас звязвае вельмі-вельмі шмат супольнага. І гісторыя, і эканоміка, і палітыка. Расія — для нас галоўны саюзнік. Але гэта не значыць, што не павінны развіваць адносіны з іншымі бакамі. Для нас Еўрасаюз — важны эканамічны партнёр. Мы маем намер развіваць адносіны з еўрапейскімі краінамі не за кошт Расіі. Мы ведаем, што Расія ў цяжкія моманты прыйдзе нам на дапамогу».

**Зміцер Панкавец**

# Пуцін стварае ў Расіі апрычніну?

У Расіі паболела адным сілавым ведамствам — Уладзімір Пуцін загадаў стварыць Нацыянальную гвардыю, якая будзе падпарадкоўвацца непасрэдна яму.

**Нацыянальныя гвардыі**

ёсць у многіх краінах. Напрыклад, ва Украіне Нацыянальная гвардыя ўтварае рэзерв для ўзброеных сілаў. У ЗША амаль таксама, але тамтэйшая Нацгвардыя бярэ ўдзел і ў барацьбе з тэрарызмам. Бліжэйшым жа аналагам да расійскай Нацгвардыі можна назваць французскую жандармерыю.

**Апрычніна**

так называлася кола найбольш набліжаных да маскоўскага цара Івана IV людзей. Цар баяўся ўнутраных ворагаў, таму атачыў сябе вернымі галаварэзамі, якія займаліся тым, што сёння называюць тэрорам. Апрычнікі выразалі процьму баяраў і іх сваякоў, якіх падазравалі ў нелаяльнасці да цара, пакутваў і простых люд. Такім чынам Іван IV захаваў сваю ўладу. Але калі на Маскву пайшло вайной Крымскае ханства, апрычнікі разбегліся хто куды.



Гэтая структура аб'ядае ў сабе ўнутраныя войскі, АМАП, САХР і дзяржаўныя ахоўныя службы Расіі. У новай структуры вельмі шырокі спіс задач і паўнамоцтваў: так, гвардзейцы мусяць забяспечваць грамадскі парадак (у тым ліку на пратэстных акцыях), ахоўваць важныя аб'екты і спецыяльныя грузы, садзейнічаць пагранічнікам і ўдзельнічаць у тэрытарыяльнай абароне РФ, змагацца з тэрарызмам. Апроч таго, у кампетэнцыі Нацыянальнай гвардыі кантроль за абаротам зброі і працай прыватных ахоўных прадпрыемстваў.

Таксама гвардзейцы могуць страляць без папярэджання, урывацца на прыватную тэрыторыю, выкарыстоўваць спецтэхніку, пра іх дзейнасць будзе забаронена пісаць журналістам, а таксама Нацгвардыі дазволяць прымяняць зброю за мяжой.

Колькасць жа людзей у новым ведамстве расійскія СМІ ацэньваюць недзе ў 400 тысяч.

Стварэнне новай сілавой структуры ў Расіі супала з глыбокім крызісам у эканоміцы, канца якому не відаць. Ці не страхуецца такім чынам Пуцін ад імаверных грамадскіх пратэстаў?

У асяродку расійскіх вайсковых экспертаў новае ведамства сталі параўноўваць з апрычнінай на новы лад. Мяркуйце самі: Нацыянальная гвардыя падпарадкоўваецца толькі прэзідэнту, які прызначае камандуючага. А ім стаў колішні камандзір аховы Пуціна Віктар Золатаў — вельмі лаяльны кіраўніку Расіі чалавек. Золатаў стаў фактычна яшчэ адным міністрам, бо ў законе аб Нацгвардыі так і прапісваецца, што камандуючы гэтай структурай мусіць мець заробак і сацыяльныя выгады, як міністр. Але цікава не толькі гэта — у Расіі барацьбой з тэрарызмам традыцыйна займаецца ФСБ, і калі казаць, што адна з асноўных мэтаў Нацгвардыі — гэта барацьба з тэрарызмам, то як цяперака ведамствы будуць дзяліць паўнамоцтвы?

Таксама пытанне, якім чынам цяпер будуць затрымліваць крымінальнікаў — раней гэтым займаўся АМАП і САХР, якія выводзяцца са структуры МУС. Атрымліваецца, што следчым паліцыі цяпер трэба будзе звяртацца ў іншае ведамства пры патрэбе правядзення сілавой аперацыі. Дык ці не адаб'ецца на эфектыўнасці працы з'яўленне дадатковых механізмаў у міжведамасным супрацоўніцтве? МУС робіцца цалкам залежным ад пуцінскай гвардыі?

Сваім бачаннем на рэформу расійскіх унутраных войскаў падзяліўся беларускі вайсковы эксперт Аляксандр Алесін.

«Улічваючы, што эканамічнаму крызісу няма канца, нафта не абяцае імклівa даражаць, Пуцін мяркуе, што ягоныя ўнутраныя і вонкавыя апаненты могуць скарыстацца сацыяльнай напружанасцю. Таму трэба мець такі кулак для задушэння народных хваляванняў.

Тут таксама такі момант, што проста на тэрміновыя войскі нельга пакласціся, бо, як паказвае гісторыя, тэрміноўцы не хочуць ужываць зброю супраць свайго народа. Успомнім нават лютаўскую рэвалюцыю. Таму Пуціну патрэбны людзі, падрыхтаваныя фізічна і псіхалагічна для таго, каб выканаць любы загад прэзідэнта», — кажа Аляксандр Алесін.

Таксама эксперт адзначыў, што расійскі МУС фактычна перастае быць сілавым ведамствам — у ягоную структуру перавялі ФСКН і міграцыйную службу, але вывелі атрады спецыяльнага прызначэння. Можна, мабыць, падумаць, што ўсё ж нейкія групы для затрымання злачынцаў застануцца, але гэта пакуль невядома.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Лукашэнка прапаноўваў Польшчы разам пасярэднічаць у мірным урэгуляванні ва Украіне, Туск адмовіўся

Пра гэта расказаў міністр замежных спраў Польшчы Вітальд Вашчыкоўскі.

«Да майго здзіўлення, знаходзячыся ў Беларусі, размаўляючы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, я даведаўся, што прэзідэнт Беларусі прапаноўваў прэм'еру Туску разам выступіць з мірнымі прапановамі ў пытанні ўрэгулявання канфлікту. Мы знайшлі дакументы такіх размоў з Міністэрствам замежных спраў, і ўсё сведчыць пра тое, што прэм'ер Туск такой мірнай ініцыятывы не прыняў», — цытуе кіраўніка польскай дыпламатыі Польскае радыё.

Новы ўрад Польшчы вінавaціў стары ў тым, што Польшча не ўключаная ў працэс украінскага ўрэгулявання.

Як вядома, тэлефонныя размовы Аляксандра Лукашэнкі з тадышнім прэм'ерам Польшчы Дональдам Тускам і кіраўніком Еўрарады Германам ван Рампеем адбыліся адразу пасля таго, як стала зразумелай анексія Крыма Расіяй.

**Сяргей Гезгала**

# Дзмітрый Кісялёў не адчувае віны за тое, што адбылося на Данбасе

Мінск наведаў гендырэктар МІА «Россия Сегодня», вядомы прапагандыст Дзмітрый Кісялёў. Ён сустрэўся з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем, а ў Доме Масквы прайшла яго сустрэча з журналістамі. У сустрэчы ўзяла ўдзел міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч.


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

«Мы працуем у Беларусі даўно, а сёння проста адкрываем новую прастору [беларускі партал «Спутнік» уваходзіць у структуру «Россія сегодня»], — сказаў Дзмітрый Кісялёў. — Мэты прысутнасці ў Беларусі не адрозніваюцца ад мэтаў працы ў свеце — фарміраванне справядлівага вобразу Расіі. Але ў дачыненні да Беларусі ёсць адна карэкціроўка: у нас Саюзная дзяржава, якраз у гэтыя дні мы адзначаем яе юбілей, таму і ўяўленні пра наш саюз таксама маюць быць справядлівымі. Мы сябе не аддзяляем ад братэрскага беларускага народа. Хочам, каб у вас была магчымасць развівацца без перашкод звонку», — даказваў Кісялёў.

Лілія Ананіч у сваю чаргу запэўніла госця, што, на яе думку, беларусаў і рускіх «звязваюць тысячагадовыя карані сваяцтва», і таксама дадала, што яе ведамства разам з Міністэрствам сувязі Расіі распрацоўвае план стварэння супольнай інфармацыйнай прасторы Саюзнай дзяржавы, які, мяркую, будзе прыняты на ўзроўні рады міністраў Саюзнай дзяржавы.

Потым міністарка Ананіч і Кісялёў пачалі адказваць на пытанні з залы.

Задаў пытанне Кісялёву і журналіст «Нашай Нівы». «У Беларусі заведзена 135 крымінальных спраў на грамадзян, што бралі ўдзел у баявых дзеяннях ва Украіне, — сказаў ён. — Некторыя хлопцы, што ваявалі за ДНР, прызналі ў інтэрв'ю «НН», што адправіліся ваяваць пад уздзеяннем праграм тэлеканала «Расія», некаторых з іх ужо няма ў жывых. Ці адчуваеце вы віну за датычнасць да смерці гэтых людзей, а таксама за паламаныя лёсы тых, хто цяпераka не можа вярнуцца на радзіму праз крымінальны пераслед», — спытаўся мы.

Кісялёў у адказ сказаў, што не адчувае віны за «грамадзянскі пераварот» ва Украіне, за «касетныя бомбы, што скідаў кіеўскі рэжым на мірныя галовы данецкіх грамадзян», за «катаванні, што ладзілі нацыкі з карных батальёнаў», і за развязаную грамадзянскую вайну. Ён таксама дадаў, што ў карэспандэнта «Нашай Нівы» сумбур у галаве.

Журналістка «Народнай волі» спыталася ў Кісялёва, ці не баіцца ён, што «Спутнік-Беларусь» паўторыць лёс латвійскага аддзялення агенцтва, якое зачынілі. Маўляў, пасля расійскага ўварвання ва Украіну і ў Беларусі збіралі подпісы за абмежаванне паказу навінаў расійскіх каналаў, што насаджаюць ідэалогію г.зв. рускага свету.

«Дай бог здароўя рускаму свету, дзякуй богу, што мы жывём у ім, — сказаў у адказ Кісялёў. — Ён аказвае «облагораживающее воздействие» на цывілізацыю, што відаць у Сірыі і іншых месцах. А ў Латвіі закрылі «Спутнік», бо баяцца свабоды слова».

Адказваючы на наступнае пытанне радыё «Свабода», Кісялёў абрынуўся на «Свабоду» з крытыкай. Сказаў, што «Свабода» займаецца бруднай журналістыкай, супраць якой выступае «Россія сегодня». А ўся рэч у тым, што «Свабода» спытала пра афшоры Пуціна. Па сутнасці ж Кісялёў сказаў, што «давярае прэзідэнту».

У сваю чаргу міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч зазначыла, што галоўнае, каб журналістыка заставалася чэснай і неперадузятай, бо ў час інтэрнэту праўда абавязкова вылезе. Не напіша адзін, дык напіша другі, сказала яна.

«На Захадзе вобраз Беларусі складаецца са штампаў, гэта прымітыўны вобраз», — перакананы Кісялёў. А «Спутнік» будзе прасоўваць яе пазітыўны вобраз, запэўніў ён.

Таксама ў расійскага прапагандыста запыталіся, якую пазіцыю зойме «Спутнік», калі паміж Беларуссю і Расіяй адбудзецца інфармацыйная вайна кшталту тых, што ўжо бывалі.

Кісялёў у адказ сказаў, што не займаецца інфармацыйнымі войнамі. Цягам канферэнцыі ён увогуле вельмі часта называў сябе «журналістам» і ўсяляк імкнуўся гэта падкрэсліць.

«Інфармацыйнымі войнамі займаюцца ЗША, а не мы», — сказаў Кісялёў.

У адказ Ананіч запэўніла, што, як міністр, будзе рабіць усё, «каб не дапусціць інфармацыйнай вайны паміж Беларуссю і Расіяй».

**Арцём Гарбацэвіч**

# Святлана Калінкіна: Угледзьцеся, з якімі тварамі слухаюць Лукашэнку



«Вы ўжо, напэўна, заўважылі, што нават нашы браты — як вы любіце казаць, браткі — нас ужо выкідваюць з Расіі».

«Нам трэба сабрацца ў кучу, па-беларуску — вытрымаць».

«Для мяне МАЗ — гэта ўжо планка, ніжэй за якую апускацца нельга. Першае вам маё заданне — ніжэй нельга!»

«МАЗу быць! Быць заўсёды! І пры мне, і пасля мяне!»

«Я гэты завод захаваю, нават калі мне давядзецца зняць з вас апошнюю скуру...»

Аляксандр Лукашэнка казаў і афарызмамі, і лозунгамі, казаў і рашуча, і як бы па сакрэце. Але людзі... Твары...

Гэта ўжо не тыя, поўныя экстазу, сустрэчы прэзідэнта, якія былі дзесяць гадоў таму. Калі Лукашэнка вяшчаў, а натоўп ківаў у падтрымку. Калі ён смяшыў — і ўсе дружна смяяліся. Калі ён абяцаў — і яму шчыра верылі.

Паглядзіце на гэтыя твары. Суровае, зацятае маўчанне. Пры гэтым што ні чалавек — то эмоцыя.

Першы злева (ледзь бачны за спінай прамоўцы) — погляд спадылба і ўбок. Нагледзеўся ўжо, мабыць, на прамоўцу. Наслухаўся.

Другі — рабацяга, скептычна кусае вус. Рукі ў кішэні. Вельмі можа быць, што і дуля ў кішэні. Бровы зведзены, погляд не добры. Зусім не добры, як перад бойкай.

Далей: погляд у падлогу, рукі — у замок, юнае стварэнне, якога фатограф цікавіць відавочна больш, чым выступоўца... А вось і проста відавочная грымаса пагарды.

Нават ружавашчокі пенсіянер усміхаецца неяк крыва. Інтэлігент у акулярах, стоячы за спінамі таварышаў, наогул прыняў бычыную стойку. Ці вось паненкі, якія яшчэ нядаўна млелі і ад хрыпатцы ў голасе, і ад саміх прамоваў... Адна на выступоўцу цяпер і глядзець не жадае, за злосцю і раздражнёна адвяла позірк убок. А другая ўсё яшчэ глядзіць. Але ўжо асуджана-жаласліва — як на мужа-п'яніцу, які чарговы раз нешта лапоча, каб апраўдацца...

Вось ён — электарат Лукашэнкі. На фота, прадстаўленым яго прэсслужбай.

Не трэба сацыялагічных апытанняў, не трэба глыбокай аналітыкі. Усё — на тварах. Суровае зацятае маўчанне. Такое адчуванне, што яшчэ ледзь-ледзь — і гэтаму дзядзечку з мікрафонам прыйдзецца проста ўцякаць.

**Святлана Калінкіна/facebook.com**

# Генпракурор папярэдзіў студэнтаў і іх бацькоў пра магчымыя правакацыі

Генпракурор Беларусі на тэлеканале «Беларусь-1» папярэдзіў студэнтаў і іх бацькоў пра магчымыя правакацыі. Аляксандр Канюк лічыць, што іх могуць учыніць наркагандляры.

Ён прывёў прыклад, як пасля лекцыі ва ўніверсітэце да яго падышоў студэнт і паказаў атрыманае СМС з прапановай добра аплочванай працы — за распаўсюд наркотыкаў. «Трэба разумець, як складана знайсці і вылічыць наркараспаўсюднікаў. Яны шыфруюцца вельмі сур'ёзна», — сказаў генпракурор.

Канюк дадаў, што ў Беларусі пагранейшаму пакаранне за распаўсюд наркотыкаў будзе жорсткім, у тым ліку і для падлеткаў, якіх могуць прыцягваць да адказнасці з 14 гадоў. «У той жа час разумеем, што ты 14—15 гадоў да канца ўсвядоміць, што ты зрабіў, можа быць, яшчэ і немагчыма. Жорсткае пакаранне застанецца, і яго змяняць у бліжэйшы час, я думаю, не будзем», — цытуе словы Аляксандра Канюка БелТА.

Генпракурор нагадаў, што МУС прапануе асуджаных непаўналетніх раней выпускаць на волю пры наяўнасці важкіх прычын.

# Калі беларусы будуць выходзіць на пенсію?

Як і планавалася, пенсійны ўзрост у Беларусі павышаны на тры гады. Рэформа пачнецца ад пачатку наступнага года і расцягнецца да канца 2022.

Мужчыны будуць выходзіць на пенсію ў 63 гады, жанчыны — у 58 гадоў.

Для вайскоўцаў (прычым толькі не вышэй за падпалкоўніка) пакінутая пенсія з 48 гадоў.

| Дата нараджэння | | Пенсійны ўзрост | |
|---|---|---|---|
| мужчыны | жанчыны | мужчыны | жанчыны |
| 01.01.1957-30.06.1957 | 01.01.1962-30.06.1962 | 60,5 | 55,5 |
| 01.07.1957-31.12.1957 | 01.07.1962-31.12.1962 | 61 | 56 |
| 01.01.1958-30.06.1958 | 01.01.1963-30.06.1963 | 61,5 | 56,5 |
| 01.07.1958-31.12.1958 | 01.07.1963-31.12.1963 | 62 | 57 |
| 01.01.1959-30.06.1959 | 01.01.1964-30.06.1964 | 62,5 | 57,5 |
| 01.07.1959-31.12.1959 | 01.07.1964-31.12.1964 | 63 | 58 |

# Кватэры працягваюць таннець

Цана прапановы квадратнага метра жылля ў Мінску апусцілася да $1188.

Аднак тэмпы зніжэння цаны запаволіліся.

У лютым яны дасягалі 1,1—1,2% на тыдзень, у канцы сакавіка апусціліся да 0,6—0,7%, а цяпер складаюць 0,3%.

Пры гэтым колькасць выстаўленых на продаж кватэр змяншаецца.

Рэальны кошт угодаў меншы за цану прапановы. Розніца складае каля $80—100 за квадратны метр.

У абласных цэнтрах, паводле падлікаў Realt.by, цана прапановы квадратнага метра вагаецца ад $639 у Магілёве да $835 у Брэсце.

**ЯМ**

# Новая аўтамабільная рэвалюцыя: у порт Ратэрдама прыбылі шэсць калон фур-беспілотнікаў

Некалькі дзён таму яны выехалі з Нямеччыны і Швецыі. Без кіроўцаў яны адолелі 2100 кіламетраў.

Фуры самі аб'язджаюць прыпаркаваныя аўтамабілі, тармозяць перад пешаходамі і выбіраюць эканамічны рэжым язды.

У эксперыменце ўзялі ўдзел дзясятак беспілотных грузавых фураў шасці вядучых еўрапейскіх аўтавытворцаў. У кожным караване было па 2—3 грузавікі, якія кантраляваліся кіроўцамі-аператарам з вядучага грузавіка з дапамогай бесправадной сувязі. У працэсе руху ім задаваліся маршрут і хуткасць, сінхранізаваліся моманты тармажэння і паскарэння.

Вядучы каравана забяспечваў бяспечную дыстанцыю паміж імі.

Удзельнікі нідэрландскага праекта *European Truck Platooning* («Еўрапейскі рух грузавікоў у калоне») падлічылі, што два грузавікі, абсталяваныя падобнай сістэмай аўтаматычнага прытрымлівання адзін за адным, пры штогадовым прабегу 160 тысяч кіламетраў дазволілі б ашчадзіць на паліве да 6 тысяч еўра (у параўнанні з перамяшчэннем на звычайным круіз-кантролі).

Як адзначаюць распрацоўшчыкі, аб поўнай аўтаномнасці машын казаць пакуль рана. Для яе дасягнення неабходна пераадолець шэраг праблем, звязаных са стандартызацыяй правілаў перавозак на ўсім кантыненце, а таксама з забеспячэннем узаемадзеяння паміж грузавікамі розных вытворцаў.




«Грузавыя караваны забяспечаць больш экалагічна бяспечныя і выгадныя перавозкі. Беспілотны транспарт таксама спрыяе большай бяспецы дарожнага руху, бо прычынай большасці аварый становіцца чалавечы фактар», — падвёў першыя вынікі эксперыменту міністр транспарту Нідэрландаў Шульц ван Хаген.

**Сяргей Гезгала**

# Лукашэнка на «Джылі» не перасядзе…

…але ўсіх чыноўнікаў прымусіць.

Беларускія чыноўнікі мусяць паступова перасесці на «Джылі» айчыннай вытворчасці. Гэтага запатрабаваў Аляксандр Лукашэнка, аглядаючы выставу найноўшых узораў машынабудавання.

Абнаўленне аўтапарка міністэрстваў і выканкамаў мусіць адбывацца паступова. «Ніякага імпарту для чыноўнікаў, акрамя прэм'ера, віцэ-прэм'ераў і вышэйшых службовых асобаў», — даручыў Лукашэнка.

«Джылі» плануе пачаць выраб прадстаўнічых аўто сёлета ў другім паўгоддзі.

**БЮ**

# Сябар і экс-памочнік Лукашэнкі заняліся шматпрофільным бізнэсам

**Іх інтарэс** — продаж мэблі і спартыўнага харчавання, імпарт алкаголю, бары ў кінатэатрах…

Даўні тэнісны партнёр Аляксандра Лукашэнкі Сяргей Цяцерын і былы яго памочнік па спорце Ігар Зайчкаў, якія скандальна пакінулі свае пасады ў 2012 годзе пасля няўдалага выступлення беларускіх спартсменаў на летніх Алімпійскіх гульнях у Лондане, цяпер актыўна займаюцца бізнэсам. Прычым заходзяць у тыя сектары, куды пачаткоўцам без сувязяў і знаёмстваў вельмі складана прабіцца.



**Ігар Зайчкаў (злева) і Сяргей Цяцерын.**

Сяргей Цяцерын быў капітанам мужчынскай зборнай Беларусі па тэнісе, першым намеснікам міністра спорту і турызму, віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Цяцерын удзельнічае ў мерапрыемствах «для сяброў» Лукашэнкі, суправаджае кіраўніка краіны падчас адпачынкаў. Мае надзел у «Драздах-2».

Сяргей Цяцерын з'яўляецца дырэктарам кампаніі «БелГлобалСтарт», а Ігар Зайчкаў — ягоны намеснік. Пачатак бізнэсу быў закладзены ў 2013 годзе.

Праз год кампанія стала холдынгам, які займаецца разгалінаванай дзейнасцю.

Спартыўныя функцыянеры займаюцца аптова-розным продажам мэблі і прадметаў інтэр'еру, імпартуючы прадукцыю з фабрык-вытворцаў, размешчаных у Даніі, Італіі, Кітаі.

Іншы бізнэс — кінабары «*Blockbuster*», размешчаныя ў кінатэатрах Мінска, Магілёва і Горак. Адным з топ-менеджараў з'яўляецца дачка Цяцерына Таццяна.

Наступныя профілі — пастаўкі харчавання і тавараў народнага спажывання (чай, кава, снэкі, кансервы, кандытарскія вырабы), продаж кармоў для жывёлагадоўлі, а таксама спартыўнае харчаванне.

У 2015 годзе кампанія Цяцерына ўвайшла ў спіс спецімпарцёраў алкагольнай прадукцыі. Ён атрымаў правы на пастаўкі він, вермуту, каньяку і віскі з-за мяжы.

Апроч таго, у склад холдынгу «БелГлобалСтарт» уключана кампанія «БелПакСнаб». Інфармацыі пра яе з адкрытых крыніц — мінімум.

Летась на пакістанскіх інтэрнэт-рэсурсах прайшла інфармацыя пра тое, што кампанія з такой назвай планавала займацца пастаўкамі беларускіх трактароў у Пакістан, але патрапіла ў скандал, звязны нібыта з махінацыямі з адкрыццём банкаўскага рахунку і подпісамі на дакументах. Неўзабаве іншы рэсурс выпусціў матэрыял пра тое, што беларускіх бізнэсменаў, якія гатовыя прывезці ў краіну неабходныя тэхналогіі і інвестыцыі, несправядліва абвінавачваюць і прыціскаюць у Пакістане. У выніку беларусы анулявалі пагадненне з грамадзянінам Пакістана праз невыкананне ім узятых на сябе абавязацельстваў.

**Паводле Tut.by**

## Сцісла

**Расійскі рубель — каля 300 беларускіх**

Рост цаны нафты прывёў да ўмацавання расійскага рубля ў адносінах да сусветных валют. Гэта сітуацыя натуральным чынам адбіваецца і на Беларусі. Каб спрацісць жыццё вытворцам, курс расійскай валюты пастаянна павышаецца і ўжо дасягнуў арыенціру — 300 беларускіх рублёў. А даляр пакуль што каштуе каля 20 тысяч.

**Інфляцыя з пачатку года склала 5,7%**

У параўнанні з лютым цэны выраслі ўсяго на 0,8%. Гэта дае ўраду спадзеў выканаць план па інфляцыі на год. Лічба мае скласці 12%.

**Міністэрства гандлю заменяць на антыманапольнае рэгуляванне**

Памочнік Лукашэнкі Кірыл Руды анансаваў апаратную мінірэформу. Дэпартамент цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі будзе аб'яднаны з Міністэрствам гандлю. Атрыманая структура будзе называцца «Міністэрства антыманапольнага рэгулявання».

**Егіпет і Саудаўская Аравія вырашылі пабудаваць мост цераз мора**

Будаўніцтва будзе спрыяць развіццю гандлёвых адносін паміж дзвюма дзяржавамі. Мост мае быць працяглсцю каля 15 км.

**ЯМ**

## Фотафакт




**У эфіры «Беларусь-1» прадэманстравалі першы беларускі ўсюдыход. Аўтамабіль атрымаў назву «Ханта».**

# Лідары італьянскіх і брытанскіх неанацыстаў наведалі Беларусь, іх суправаджалі Дзермант і Шпакоўскі

Надзвычай неардынарныя асобы з Еўропы завіталі ў Беларусь у пачатку красавіка. Адзін з іх увогуле адкрыта называе сябе фашыстам. З паведамленняў у сацсетках кіраўнікоў праектаў «Цытадэль» і «Номас» вынікае, што ў нашай краіне знаходзіліся лідар італьянскай партыі «Forza Nuova» («Новая сіла») Рабэрта Ф'ёрэ і старшыня Брытанскай нацыянальнай партыі Нік Грыфін.

Сам спадар Грыфін змяшчае ў сваім твітары здымак з помнікам Сталіну. А Ф'ёрэ выклаў фота з нейкага рэстарана, дзе, апроч яго, прысутнічалі філосаф Аляксей Дзермант, палітычны аглядальнік Аляксандр Шпакоўскі, эканаміст Аляксандр Сінкевіч, палітолаг Юрый Шаўцоў. Усе яны — пастаянныя эксперты на дзяржаўным ТБ Беларусі.

Таксама Ф'ёрэ меў сустрэчу з прадстаўнікамі Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, якой кіруе Сяргей Гайдукевіч.

Яшчэ некалькімі здымкамі побыту Грыфіна і Ф'ёрэ ў Мінску падзяліліся ўдзельнік праекта «Цытадэль» Аляксей Дзермант і кіраўнік кансерватыўнага цэнтра «Номас» Пятро Пятроўскі. У каментарах у фэйсбуку Дзермант адзначае, што ніякай інфармацыі для прэсы аб прыездзе гасцей не будзе.

Хто ж такія гэтыя Ф'ёрэ і Грыфін? Гэта крайне правыя, маргінальныя палітыкі Італіі і Вялікабрытаніі.

Рабэрта Ф'ёрэ пачынаў свой шлях у палітыку пры канцы 1970-х з арганізацыяй «Трэцяя пазіцыя», што прытрымлівалася неафашысцкай ідэалогіі. Абвінавачваўся ў тэрарыстычнай дзейнасці ў 1970-я. Уцякаючы ад імавернага арышту, Ф'ёрэ пераехаў у Вялікабрытанію. Прапагандыст ідэй Юліуса Эвола, ідэолага неафашызму.

У 1999 годзе Ф'ёрэ вярнуўся ў Італію, дзе па сёння ўзначальвае «Новую сілу». Доўгі час быў у кааліцыі з яшчэ адной ультраправай партыяй Італіі «Сацыяльнае дзеянне», якую ўзначальвала ўнучка Беніта Мусаліні Алесандра.



Рабэрта Ф'ёрэ — чацвёрты злева, Нік Грыфін — шосты.

Гэтая палітычная сіла сімпатызуе Уладзіміру Пуціну. Ф'ёрэ рашуча падтрымаў далучэнне Крыма да Расіі, а таксама расійскую пазіцыю па Украіне. Летась італьянец быў удзельнікам «Міжнароднага рускага кансерватыўнага форуму», які сабраў у Санкт-Пецярбургу неафашыстаў з усёй Еўропы.

«Я не лічу, што называцца фашыстам ганебна, але заявы аб тым, што нацыст, я лічу паклёпам і спробай дыскрэдытацыі», — казаў Ф'ёрэ ў 2015 годзе ў Расіі.

Нацысцкія ўскідванні рук, неанацысцкія сімвалы кшталту кельцкага крыжа на мітынгі «Forza Nuova» ў Італіі з'яўляюцца звычайнай справай.

Нік Грыфін на сёння яшчэ менш паспяховы палітык за свайго італьянскага калегу і сябра. Хаця Грыфін з'яўляўся кіраўніком Брытанскай нацыянальнай партыі, а таксама быў дэпутатам Еўрапарламента.

Калі Грыфін быў рэдактарам часопіса *The Rune*, то дэманстратыўна ў сваіх публікацыях адмаўляў існаванне Халакоста. Ён пераконваў, што брытанскія СМІ цалкам кантралююцца габрэямі, якія прамываюць «белым» брытанцам мазгі, каб тыя прымалі ідэю мультыкультуралізму.

У 1998 годзе Грыфін нават быў прызнаны вінаватым у распаўсюдзе матэрыялаў, што распальваюць нацыянальную варажнечу. Ён быў асуджаны на 9 месяцаў зняволення з адтэрміноўкай на два гады. Яшчэ раз ён арыштоўваўся ў 2004 годзе. У 2009-м Грыфін заклікаў тапіць караблі з афрыканскімі нелегаламі.

Цяпер рыторыка Грыфіна і яго партыі стала больш памяркоўнай. У 2014 годзе суд Уэльса прызнаў Грыфіна банкрутам. У той жа год Грыфін быў выключаны з шэрагаў БНП за «спробу дэстабілізацыі палітычнага руху і цкавання сяброў арганізацыі».

Грыфін таксама падтрымлівае Уладзіміра Пуціна і Расію. «Масмедыя называюць нас фашыстамі. Але мы не фашысты. Фашысты тыя, хто, напрыклад, забівае рускіх ва Украіне», — казаў Грыфін.

Вось такіх палітыкаў прывозяць у Беларусь. «Прыўкрасныя інтэлектуалы, еўрапейскія патрыёты, кансерватары з вялікай літары», — напісаў пра гэтых людзей Пятро Пятроўскі.

У сваім твітары Ф'ёрэ напісаў, што сустракаўся таксама з сенатарам Марзалюком. Нам пакуль не ўдалося датэлефанавацца да сп.Марзалюка, каб даведацца пра змест гутаркі.

**Зміцер Панкавец**

# Мітрапаліт Павел просіць у віцэ-прэм'ера Качанавай дазвол на знішчэнне гістарычных дамкоў у цэнтры Мінска

Кіраўнік Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч надрукаваў у сваім фэйсбуку ліст мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла да віцэ-прэм'ера Наталлі Качанавай, датаваны 26 сакавіка. У ім духоўная асоба просіць чыноўніцу даць дазвол на выключэнне дамоў на адрасе вул. Вызвалення, 6, 6а і 8 са спісу гісторыка-культурнай спадчыны.

«Паколькі яны не маюць ніякага гістарычнага значэння і не ўяўляюць культурнай ці архітэктурнай значнасці», — гэтак безапеляцыйна сцвярджае мітрапаліт Павел.

Другім пунктам Павел просіць правесці дэмантаж гэтых будынкаў без узнаўлення.

Справа ў тым, што 11 сакавіка падчас сустрэчы Паўла і Аляксандра Лукашэнкі абмяркоўвалася пытанне аб будаўніцтве храма Уваскрасення, а таксама адміністрацыйных будынкаў Беларускага экзархата. Паўстаць яны мусяць акурат на месцы гэтых дамкоў па вуліцы Вызвалення.

Сапраўды, гэтыя будынкі на сёння знаходзяцца ў аварыйным стане, але ці нагода гэта для зносу? Пра гэта мы спыталіся ў мастацтвазнаўцы, знаўцы гісторыі Мінска Сяргея Харэўскага.

«Гэтыя дамкі ўяўляюць горадабудаўнічую каштоўнасць. На працягу апошніх 25 гадоў іх ніхто не даглядаў. Іх адсялілі ў працэсе будаўніцтва мінскага метро.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Адзін з будынкаў знішчылі яшчэ раней. Заставалася два. Усе гэтыя гады яны былі без нагляду і свядома даводзіліся да аварыйнага стану. Кажуць, там ці то вецер зняў дах, ці то п'яніцы. Я не думаю, што п'яніцы палезуць на трэці паверх з інструментам.

Тры будынкі ўяўлялі паміж сабой цікавы комплекс. Не ўяўляюць гістарычнай каштоўнасці? Але паасобныя будынкі вакол Нотр-Дам дэ Пары нібыта таксама не ўяўляюць ніякай каштоўнасці, а разам ствараюць непаўторны ансамбль. Гэтак можна зруйнаваць палову Рыма, калі ісці такой логікай. У Вільні палову дамоў можна грохнуць.

Прападае ансамбль, прападае вуліца. Раней так зруйнавалі мастакоўскі будынак на вуліцы Дзімітрава. Потым знішчылі ўсю вуліцу Дзімітрава.

Увогуле, калі не лічыць помнікам дамы XIX стагоддзя, якія занесеныя ў спіс каштоўнасцяў, то мы скатваемся да прынцыпу «падабаецца — не падабаецца, добры — кепскі».

Калі так падыходзіць, то і Траецкае прадмесце некалі было ў падобным выглядзе. Дык у тым і сэнс, што трэба зберагчы маштаб, ансамбль, планіроўку, захаваць асаблівасці рэльефу. Іх можна дыхтоўна адрэстаўраваць, навесіць ліхтары, пакрыць дахоўкай, уставіць вокны. Толькі такой логікай трэба кіравацца.

Нават кампазіцыйна дамы на вуліцы Вызвалення цікавыя: спачатку ішоў аднапавярховы, пасля — двух- і, урэшце, — трохпавярховы. Яны ўсярэдзіне вельмі адметныя: асіметрычныя сцены, сутарэнні.

Гэта правіна найперш Міністэрства культуры, якое не парупілася за 25 гадоў закансерваваць будынкі, закласці рубероідам. Атрымліваецца, што дэ-факта за стан будынкаў у нас ніхто адказнасці не нясе.

Цяпер жа пра гэтыя аб'екты мітрапаліт Павел, грамадзянін Расіі, пагаварыў асабіста з Лукашэнкам. Фактычна, ён атрымаў дазвол на тое, каб грохнуць дамкі і зрабіць «яшчэ красівшэ».

РПЦ не патрэбныя малыя будынкі — хто будзе будаваць аднапавярховікі ў тры акны? — ім патрэбныя аграмадзіны. Паводле новых праектаў, змяняецца непапраўна ландшафт, зменіцца маштаб усёй вуліцы».

Антон Астаповіч у фэйсбуку паведаміў, што рыхтуе зварот на імя Наталлі Качанавай, копіі будуць накіраваныя ў кантралюючыя органы, а таксама ў Беларускі экзархат.

**Зміцер Панкавец**

# Дэкрэт аб дармаедах можа быць зменены

У Савет міністраў Беларусі ўнесены праект зменаў дэкрэта № 3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства», гаворыцца ў адказе намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны Валерыя Кавалькова на зварот грамадзян.

Якія менавіта змены плануюцца, Мінпрацы не паведамляе.

У канцы 2015 года Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) накіравала ў Адміністрацыю прэзідэнта 10 тысяч подпісаў, сабраных пад патрабаваннем адмены дэкрэта № 3, бо ён супярэчыць Канстытуцыі і міжнародным прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь. Фактычна краіна ўвяла абавязковую працоўную павіннасць на непрацоўных грамадзян, сцвярджалі аўтары звароту.

Як гаворыцца ў адказе намесніка міністра, дэкрэт не прадугледжвае прымусовую працу грамадзян, а ўводзіць абавязак па выплаце збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў.

«Дэкрэтам устаноўлена, што толькі на падставе рашэння суда ў выпадку нявыплаты або няпоўнай выплаты грамадзянінам ў адпаведным падатковым перыядзе збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў можа быць прыменены адміністрацыйны арышт», — адзначае намеснік міністра, заўважаючы пры гэтым, што адміністрацыйна арыштаваныя абавязкова прыцягваюцца да выканання грамадска карысных работ.

Такім чынам, на думку Кавалькова, палажэнні дэкрэта не ўваходзяць у супярэчнасць з Канстытуцыяй Беларусі.

Як вынікае з адказу намесніка міністра, на 1 студзеня 2016 года ў краіне на ўліку па беспрацоўі знаходзіліся 49,2 тыс. чалавек, а наймальнікамі былі заяўленыя звесткі аб 28,7 тыс. вольных працоўных месцаў.

Пры гэтым, як піша намеснік міністра, любы закон не заўсёды ўлічвае асаблівасці канкрэтных сітуацый і складаных момантаў у жыцці асобных грамадзян.

«Каб не дапускаць такі ўсярэднены і фармальны падыход да грамадзян, артыкулам 43 Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь мясцовым саветам дэпутатаў або паводле іх даручэння мясцовым выканаўчым і распарадчым органам дадзенае права даваць асобным плацельшчыкам — фізічным асобам, якія не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, зыходзячы з іх маёмаснага становішча, льготы па рэспубліканскіх падатках, зборах (пошлінах), што поўнасцю выплачваюцца ў мясцовыя бюджэты», — адзначае Кавалькоў.

Хоць намеснік міністра сцвярджае, што дэкрэт не ўводзіць прымусовую працу, менавіта прымусовай працай і з'яўляецца абавязак паводле суда выканання якіх бы там ні было работ, заявіў БелаПАН першы намеснік старшыні БСДП (Грамада) Ігар Барысаў, нагадаўшы, што 4 красавіка набылі моц змены, згодна з якімі можна арыштоўваць «дармаедаў». Ён таксама адзначыў, што Падатковы кодэкс рэгулюе магчымасць давання льгот па гэтым зборы, а гэта азначае, што гэта ўсё-такі «не збор, а менавіта падатак на дармаедаў».

«Пакуль правапрымяняльнай практыкі ў гэтым пытанні няма. Пакуль ніхто не пацярпеў за сваё «дармаедства». Ну а калі першых людзей будуць кідаць за краты, будзе цікава паглядзець, як яны прымусяць чалавека, якога арыштуюць на 10—15 сутак, працаваць. Бо гэтыя людзі таксама могуць адмовіцца», — сказаў Барысаў.

Разам з тым ён адзначыў, што сабраныя подпісы, мабыць, у нейкай ступені паўплывалі на магчымыя змены дэкрэта № 3. «Праўда, іх сутнасць невядомая, але тое, што можна вызваляць грамадзян ад збору за «дармаедства» паводле рашэння мясцовых улад, гэта ўжо станоўчы момант», — заявіў сацыял-дэмакрат.

**Уладзімір Лапцэвіч, БелаПАН**

## ИП Старовойтова Надежда Владимировна

Свидетельство о государственной регистрации № 192183065
Квалификационный аттестат аудитора от 08.12.2008 № 0001663
Адрес: 220024, г. Минск, пер. Корженевского, 20-133
Исх. № 19/34 от 31 марта 2016 г.

Директору
ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер»
Демичеву Владимиру Владимировичу

**АУДИТОРСКОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ**
по бухгалтерской отчетности
Общества с ограниченной ответственностью
«ПраймКонсалт Страховой Брокер»
за период с 01.01.2015 г. по 31.12.2015 г.

г. Минск
31 марта 2016 года
Реквизиты аудируемого лица:
Общество с ограниченной ответственностью «ПраймКонсалт Страховой Брокер».
Юридический адрес и местонахождение: 220117, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Рафиева, 54а, 1-й этаж, офисное помещение.
Зарегистрировано Министерством финансов Республики Беларусь 26 июня 2014 г. в Едином государственном регистре юридических лиц и индивидуальных предпринимателей за № 806000564.

**Реквизиты аудитора:**
Индивидуальный предприниматель Старовойтова Надежда Владимировна.
Местонахождение: Республика Беларусь, г. Минск, пер. Корженевского, 20-133.
Телефон: +375 29 315 02 95.
Зарегистрирован в Едином государственном регистре юридических лиц и индивидуальных предпринимателей в качестве индивидуального предпринимателя с регистрационным номером 192183065 на основании решения Минского горисполкома от 20 декабря 2013 г.
Квалификационный аттестат аудитора № 0001663 выдан на основании приказа Министерства финансов Республики Беларусь № 409 от 08 декабря 2008 г., регистрационный номер 1555.
Я провела аудит прилагаемой бухгалтерской отчетности Общества с ограниченной ответственностью «ПраймКонсалт Страховой Брокер», состоящей из бухгалтерского баланса на 31 декабря 2015 г., отчета о прибылях и убытках, отчета об изменении капитала, отчета о движении денежных средств за год, закончившийся на указанную дату, а также примечаний к бухгалтерской отчетности.

**ОБЯЗАННОСТИ РУКОВОДСТВА АУДИРУЕМОГО ЛИЦА ПО ПОДГОТОВКЕ БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**
Руководство ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер» несет ответственность за составление и представление бухгалтерской отчетности в соответствии с требованиями законодательства Республики Беларусь и организацию системы внутреннего контроля, необходимой для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, допущенных вследствие недобросовестных действий или ошибок.

**ОБЯЗАННОСТИ АУДИТОРА**
Я несу ответственность за выраженное мною аудиторское мнение о достоверности бухгалтерской отчетности, основанное на результатах проведенного аудита.
Я провела аудит в соответствии с требованиями Закона Республики Беларусь от 12 июля 2013 года «Об аудиторской деятельности» и национальных правил аудиторской деятельности, которые обязывают меня соблюдать нормы профессиональной этики, планировать и проводить аудит таким образом, чтобы обеспечить достаточную уверенность относительно наличия либо отсутствия существенных искажений в представленной бухгалтерской отчетности.
В ходе аудита мною были выполнены аудиторские процедуры, направленные на получение аудиторских доказательств, подтверждающих значения показателей бухгалтерской отчетности ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер», а также другую раскрытую в ней информацию. Выбор аудиторских процедур осуществлялся на основании профессионального суждения с учетом оценки риска существенного искажения бухгалтерской отчетности в результате ошибок или недобросовестных действий. При оценке риска существенного искажения бухгалтерской отчетности мною рассматривалась система внутреннего контроля ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер», необходимая для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, с целью планирования аудиторских процедур, соответствующих обстоятельствам аудита, но не с целью выражения мнения относительно эффективности функционирования этой системы.
Аудит также включал оценку применяемой учетной политики, обоснованности учетных оценок и общего содержания бухгалтерской отчетности ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер».
Я полагаю, что в ходе аудита мною были получены достаточные и надлежащие аудиторские доказательства, которые могут являться основанием для выражения аудиторского мнения.

**АУДИТОРСКОЕ МНЕНИЕ**
По моему мнению, отчетность ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер» достоверно отражает во всех существенных аспектах его финансовое положение, финансовые результаты его деятельности и изменения его финансового положения (движение денежных средств) в соответствии с применимой основой составления и представления бухгалтерской отчетности.

Аудитор Старовойтова Н.В.

(Дата подписания
аудиторского заключения
по бухгалтерской отчетности) 31 марта 2016 г.

Приложение 1 к постановлению
Министерства финансов
Республики Беларусь 31.10.2011 № 111

### БУХГАЛТЕРСКИЙ БАЛАНС на 2015 год

| | |
|---|---|
| Организация | ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер» |
| Учетный номер плательщика | 806000564 |
| Вид экономической деятельности | 67201 |
| Организационно-правовая форма | частная |
| Орган управления | нет |
| Единица измерения | млн руб. |
| Адрес | г.Минск ул.Рафиева,54а 1этаж |

| Активы | Код строки | «На 2015 год» | На 31 декабря 2014 г. |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| I. ДОЛГОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Основные средства | 110 | 139 | 194 |
| Нематериальные активы | 120 | - | - |
| Доходные вложения в материальные активы | 130 | - | - |
| «В том числе: инвестиционная недвижимость» | 131 | - | - |
| «предметы финансовой аренды (лизинга)» | 132 | - | - |
| прочие доходные вложения в материальные активы | 133 | - | - |
| Вложения в долгосрочные активы | 140 | - | - |
| Долгосрочные финансовые вложения | 150 | - | - |
| Отложенные налоговые активы | 160 | - | - |
| Долгосрочная дебиторская задолженность | 170 | - | - |
| Прочие долгосрочные активы | 180 | - | - |
| ИТОГО по разделу I | 190 | 139 | 194 |
| II. КРАТКОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Запасы | 210 | 7 | 4 |
| «В том числе: материалы» | 211 | 7 | 4 |
| животные на выращивании и откорме | 212 | - | - |
| незавершенное производство | 213 | - | - |
| готовая продукция и товары | 214 | - | - |
| товары отгруженные | 215 | - | - |
| прочие запасы | 216 | - | - |
| Долгосрочные активы, предназначенные для реализации | 220 | - | - |
| Расходы будущих периодов | 230 | - | - |
| Налог на добавленную стоимость по приобретенным товарам, работам, услугам | 240 | - | - |
| Краткосрочная дебиторская задолженность | 250 | 1 042 | 40 |
| Краткосрочные финансовые вложения | 260 | - | - |
| Денежные средства и их эквиваленты | 270 | 551 | 407 |
| Прочие краткосрочные активы | 280 | - | - |
| ИТОГО по разделу II | 290 | 1 600 | 451 |
| БАЛАНС | 300 | 1 739 | 645 |
| Собственный капитал и обязательства | Код строки | «На 2015 год» | На 31 декабря 2014 г.» |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| III. СОБСТВЕННЫЙ КАПИТАЛ | | | |
| Уставный капитал | 410 | 334 | 334 |
| Неоплаченная часть уставного капитала | 420 | - | - |
| Собственные акции (доли в уставном капитале) | 430 | - | - |
| Резервный капитал | 440 | 27 | 27 |
| Добавочный капитал | 450 | - | - |
| Нераспределенная прибыль (непокрытый убыток) | 460 | 447 | 65 |
| Чистая прибыль (убыток) отчетного периода | 470 | - | - |
| Целевое финансирование | 480 | - | - |
| ИТОГО по разделу III | 490 | 808 | 426 |
| IV. ДОЛГОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА | | | |
| Долгосрочные кредиты и займы | 510 | 828 | - |
| Долгосрочные обязательства по лизинговым платежам | 520 | - | - |
| Отложенные налоговые обязательства | 530 | - | - |
| Доходы будущих периодов | 540 | - | - |
| Резервы предстоящих платежей | 550 | - | - |
| Прочие долгосрочные обязательства | 560 | - | - |
| ИТОГО по разделу IV | 590 | 828 | - |
| V. КРАТКОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА | | | |
| Краткосрочные кредиты и займы | 610 | 0 | 0 |
| Краткосрочная часть долгосрочных обязательств | 620 | 0 | 0 |
| Краткосрочная кредиторская задолженность | 630 | 103 | 219 |
| «В том числе: поставщикам, подрядчикам, исполнителям» | 631 | - | - |
| по авансам полученным | 632 | - | - |
| по налогам и сборам | 633 | 3 | 25 |
| по социальному страхованию и обеспечению | 634 | 2 | 1 |
| по оплате труда | 635 | 7 | 2 |
| по лизинговым платежам | 636 | 91 | 191 |
| «собственнику имущества (учредителям, участникам)» | 637 | - | - |
| прочим кредиторам | 638 | - | - |
| Обязательства, предназначенные для реализации | 640 | - | - |
| Доходы будущих периодов | 650 | - | - |
| Резервы предстоящих платежей | 660 | - | - |
| Прочие краткосрочные обязательства | 670 | - | - |
| ИТОГО по разделу V | 690 | 103 | 219 |
| БАЛАНС | 700 | 1 739 | 645 |

Руководитель Демичев В.В.
Главный бухгалтер
ЧУП «Амарено» Шевчик О.А.

Приложение 2 к постановлению
Министерства финансов
Республики Беларусь 31.10.2011 № 111

### ОТЧЕТ о прибылях и убытках за 2015 год

| | |
|---|---|
| Организация | ООО «ПраймКонсалт Страховой Брокер» |
| Учетный номер плательщика | 806000564 |
| Вид экономической деятельности | 67201 |
| Организационно-правовая форма | Общество с ограниченной ответственностью |
| Орган управления | нет |
| Единица измерения | млн руб. |
| Адрес | г.Минск ул.Рафиева,54а 1этаж |

| Наименование показателей | Код строки | «За 2015 год» | «За 2014 год» |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Выручка от реализации продукции, товаров, работ, услуг | 10 | 1 738 | 584 |
| Себестоимость реализованной продукции, товаров, работ, услуг | 20 | - | - |
| Валовая прибыль (010-020) | 30 | 1 738 | 584 |
| Управленческие расходы | 40 | (767) | (119) |
| Расходы на реализацию | 50 | - | - |
| Прибыль (убыток) от реализации продукции, товаров, работ, услуг (030 — 040 — 050) | 60 | 971 | 465 |
| Прочие доходы по текущей деятельности | 70 | 11 | - |
| Прочие расходы по текущей деятельности | 80 | (454) | (3) |
| Прибыль (убыток) от текущей деятельности (+/-060 + 070 — 080) | 90 | 528 | 462 |
| Доходы по инвестиционной деятельности | 100 | - | 1 |
| «В том числе: доходы от выбытия основных средств, нематериальных активов и других долгосрочных активов» | 101 | - | - |
| доходы от участия в уставном капитале других организаций | 102 | - | - |
| проценты к получению | 103 | - | - |
| прочие доходы по инвестиционной деятельности | 104 | - | 1 |
| Расходы по инвестиционной деятельности | 110 | - | - |
| «В том числе: расходы от выбытия основных средств, нематериальных активов и других долгосрочных активов» | 111 | - | - |
| прочие расходы по инвестиционной деятельности | 112 | - | - |
| Доходы по финансовой деятельности | 120 | 299 | - |
| «В том числе: курсовые разницы от пересчета активов и обязательств» | 121 | 299 | - |
| прочие доходы по финансовой деятельности | 122 | - | - |
| Расходы по финансовой деятельности | 130 | (185) | - |
| «В том числе: проценты к уплате» | 131 | - | - |
| курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 132 | 185 | - |
| прочие расходы по финансовой деятельности | 133 | - | - |
| «Прибыль (убыток) от инвестиционной и финансовой деятельности (100 — 110 + 120 — 130)» | 140 | 114 | 1 |
| «Прибыль (убыток) до налогообложения (+/- 090 +/- 140)» | 150 | 642 | 463 |
| Налог на прибыль | 160 | (195) | (83) |
| Изменение отложенных налоговых активов | 170 | - | - |
| Изменение отложенных налоговых обязательств | 180 | - | - |
| Прочие налоги и сборы, исчисляемые из прибыли (дохода) | 190 | - | - |
| Прочие платежи, исчисляемые из рибыли (дохода) | 200 | - | - |
| «Чистая прибыль (убыток) (+/-150 — 160 +/- 170 +/- 180 — 190 — 200)» | 210 | 447 | 380 |
| Результат от переоценки долгосрочных активов, не включаемый в чистую прибыль (убыток) | 220 | - | - |
| Результат от прочих операций, не включаемый в чистую прибыль (убыток) | 230 | - | - |
| Совокупная прибыль (убыток) (+/-210 +/- 220 +/- 230) | 240 | 447 | 380 |
| Базовая прибыль (убыток) на акцию | 250 | - | - |
| Разводненная прибыль (убыток) на акцию | 260 | - | - |

Руководитель Демичев В.В
Главный бухгалтер
ЧУП «Амарено» Шевчик О.А.

ООО «ПРАЙМКОНСАЛТ СТРАХОВОЙ БРОКЕР» УНП 806000564

# Кіроўца падвёз чалавека. Той пакінуў 25 тысяч на падлозе. Кіроўцу хочуць аштрафаваць, хоць ён даводзіць, што вёз бясплатна

«Дабрыня не застаецца без пакарання», — наракае мінчук Іван. Ён трапіў у непрыемную сітуацыю, калі падвёз на сваім BMW з пасёлка Свіслач у Мінск незнаёмага чалавека, якога падабраў на прыпынку. Калі пасажыр выйшаў з машыны, да Івана пад'ехаў аўтамабіль Транспартнай інспекцыі з уключанымі мігалкамі, і інспектары паведамілі кіроўцу, што ён ажыццявіў нелегальнае возніцтва і будзе пакараны.

Аказваецца, пасажыр, выходзячы з аўто, пакінуў на дыванку ззаду грошы — пра што Іван проста не ведаў!

Уся сітуацыя — ад сустрэчы са спадарожнікам да разборак з транспартнікамі — засталася на запісе відэарэгістратара кіроўцы. У працэсе афармлення, дарэчы, інспектар, можна сказаць, сам прызнае, што Івану не пашанцавала і ён стаў удзельнікам кантрольнай закупкі. Кіроўца ж у гутарцы з інспектарамі некалькі разоў эмацыйна паўтарае: «Хлопцы, вы мяне наогул чуеце ці вы робаты?.. Якое возніцтва за плату? Я не прасіў і не браў грошай... Гэта ж самая сапраўдная падстава!»

— З ім па дарозе я не размаўляў, гэта відаць на запісе відэарэгістратара, — распавёў Іван. — Я дастаткова зарабляю, таму мне не трэба таксаваць, каб зарабіць на жыццё.

Транспартнікі запатрабавалі ў кіроўцы дакументы, а затым склалі акт аб адміністрацыйным правапарушэнні — незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Артыкул 12.7 КаАП цягне накладанне штрафу ад 10 да 50 базавых велічынь.

— Вы ажыццявілі перавозку пасажыра за аплату — 25 тысяч рублёў, — не маючы на гэта ліцэнзіі, — сказаў інспектар кіроўцу.

У тлумачэннях у пратаколе пазней пасажыр напіша: «... пасля заканчэння нашай паездкі я яму аплаціў 25 000 рублёў і сказаў «Дзякуй» за аказаную мне паслугу».

Іван не прызнаў віны. Транспартнікі перадалі матэрыялы на разгляд у Эканамічны суд — пасяджэнне адбудзецца ў бліжэйшы час. Мінчук наняў адваката і рыхтуецца адстойваць сваю пазіцыю.

— Няўжо нікога нельга падвозіць без таго, каб потым быць пакараным? — здзіўляецца Іван.

— З пасёлкаў Свіслач і Дружны вадзіцелі пастаянна падвозяць спадарожнікаў да Мінска за грошы, — кажа начальнік упраўлення кантролю транспартнай дзейнасці Транспартнай інспекцыі па Мінску і Мінскай вобласці Дзмітрый Пацкевіч. — Кіроўцы ведаюць, што за гэтую плату яны адаб'юць дарогу туды-назад. Вядома, аўтамабіліст, калі трапіўся, будзе казаць, што ён не браў грошы, а што яму застаецца? Запіс з відэарэгістратара — не доказ, мы не ведаем, што гэта за запіс і калі ён быў зроблены. Пры складанні акту былі апытаны пасажыр, які пацвердзіў, што аплаціў паездку.

Дарэчы, пад незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць падпадаюць і кіроўцы, якія, не маючы ліцэнзіі на перавозкі, размяшчаюць у інтэрнэце аб'явы з прапановай падвезці куды-небудзь за грошы. Перадача грошай за падвоз лічыцца здзейсненай, калі ў салоне аўтамабіля знаходзяцца купюры, якімі пасажыры разлічыліся за перавозку, — іх можна нават не браць у рукі.

— Калі вы дамаўляецеся з кімнебудзь ехаць у складчыну за бензін, то заедзьце на запраўку. Хай падарожны аплаціць паліва праз касу АЗС. Каб пазбегнуць спрэчных сітуацый, непажадана здзяйсняць нейкія разлікі ў салоне аўтамабіля, — рэкамендуе Транспартная інспекцыя.

Разам з тым практыка паездак у складчыну пашыраная ў Еўропе. Сістэма падвозу лічыцца адным з важных момантаў барацьбы з гіпераўтамабілізацыяй буйных гарадоў: уладам выгадна, каб з дробнага населенага пункта ў буйны 4 чалавекі прыехалі на адной машыне, а не на чатырох — гэта вырашае пытанні экалогіі, затораў, парковак. Партал інтэрнэт-сістэмы *Blablacar*, дзе можна знайсці спадарожнікаў для паездкі, працуе і ў Расіі.

**Tut.by**

## Настаўніцу малодшых класаў, якая станцавала твёрк, прымусілі звольніцца

У Мексіцы настаўніцы малодшых класаў давялося звольніцца пасля з'яўлення ў інтэрнэце відэазапісу, на якім яна танчыць твёрк у бікіні. Твёрк — гэта эратычны танец, калі жанчына актыўна круціць сцёгнамі, а астатнія часткі цела амаль не рухаюцца.

24-гадовая дзяўчына выканала танец падчас пляжнага конкурсу ў горадзе Каба-Сан-Лукас. Відэа трапіла ў «ЮТуб».

Калі запіс убачылі бацькі школьнікаў, яны сабралі 150 подпісаў за звальненне педагога, і настаўніца мусіла сысці з працы.

Па словах выкладчыцы, калі танцавала, яна не думала, што ролік убачыць столькі людзей.

**СМ**



## ФК «Мінск» скарыстаў у рэкламе клуба фотаздымкі порнаакцёрак

У эпічную гісторыю трапіў футбольны клуб «Мінск». Бяскрыўднай і нават пазітыўнай навіной пра тое, што страхавая кампанія «Таск» стала афіцыйным спонсарам каманды, раптоўна зацікавіліся далёка за межамі Беларусі.

Рэч у тым, што ў ілюстрацыі да гэтай навіны быў скарыстаны здымак трох прыгожых дзяўчат, размаляваных у сіне-чырвоныя колеры «Мінска». Аднак уважлівыя карыстальнікі сацыяльнай сеткі «Укантакце» імгненна знайшлі арыгінал гэтага фота.

На ім размешчаныя тры чэшскія порнаакцёркі, якія маюць псеўданімы *Ariel, Caprice* і *Carisha*.

Маркетолаг «Мінска» Аляксандр Багайчук расказаў у інтэрв'ю *by.tribuna.com,* што рэкламу яны замовілі ў аднаго спецыяліста. «Арыгінала фота мы не бачылі. Гэта, канечне, касяк. Гэта кепска і нязДорава», — сказаў Багайчук.




Футбольны клуб «Мінск» заснаваны ў 2006 годзе на базе каманды «Змена». Каманда ў значнай ступені фінансуецца Мінгарвыканкамам. «Мінск» быў уладальнікам Кубка Беларусі ў 2013 годзе, а таксама бронзавым прызёрам у 2010-м. На сёння клуб трэніруе Георгій Кандрацьеў.

Хай і несвядома, але піяр у клуба атрымаўся вельмі ўдалы. Рэклама сапраўды выйшла рэзанансная.

**ЗП**



## Спявачка Ірына Дубцова — гледачам у Гомелі: «А навошта вы сыходзіце?»

8 красавіка ў Гомелі быў сарваны канцэрт расійскай спявачкі Ірыны Дубцовай. Яна выступала ў рамках гастрольнага тура з новай праграмай «Любі мяне доўга».

У інтэрнэце змясцілі відэа: Дубцова спявае, спявае, а пасля пачынае хадзіць па сцэне і размаўляць з гледачамі. «Я стаю тут перад вамі пасля двух канцэртаў у Мінску і нават не перажываю, — кажа яна. — Бо вакол усе свае, усе нашы. І няважна, ці зайшлі вы перад канцэртам... у бар!.. А чаму вы сыходзіце?» — гаворыць яна ўслед гледачам, якія пачынаюць выходзіць з залы.

Пасля і сама Дубцова пайшла за кулісы, пакінуўшы разгубленых музыкаў іграць.

Прыхільнікі поп-зоркі былі расчараваныя яе паводзінамі і пакінулі ў сацсетках некалькі сотняў водгукаў, у большасці з якіх прыводзілася меркаванне, што Дубцова выйшла на сцэну ў нецвярозым стане. Арганізатары канцэрта патлумачылі дзіўныя паводзіны спявачкі тым, што ў яе алергія на цвіценне бярозы, пішуць *naviny.by*

Ірына Дубцова стала вядомай у 2004 годзе як пераможца праекта «Фабрыка зорак — 4». Цяпер ёй 34 гады.

**СМ**

Іх норавы

## Жырыноўскі адкрыў помнік самому сабе пад гукі гімна «Божа, цара храні!»



У Маскве ва ўрачыстай абстаноўцы адкрылі помнік кіраўніку ЛДПР Уладзіміру Жырыноўскаму. Трохметровую бронзавую скульптуру выканаў кітчавы скульптар Зураб Цэрэтэлі. Яна ўсталяваная ў двары Інстытута сусветных цывілізацый у 1-м Басманным завулку.

Нагода для помніка — надыходзячы 70-гадовы юбілей Жырыноўскага. У цырымоніі адкрыцця ўзяў удзел і сам юбіляр. Адкрылі помнік пад гукі гімна імперскай Расіі «Божа, цара храні!».

Жырыноўскі прыйшоў у палітыку яшчэ ў канцы 1980-х. У ягонай асобе савецкі КГБ стварыў псеўдаапазіцыю КПСС. З тых часоў ён круціцца ў дэпутатах, прамаўляючы тое, што выгадна ўладам у дадзены момант. На фоне Жырыноўскага любы ідыёт у вярхах выглядае не такім ужо і паскудным.

**Сяргей Гезгала**

# Як і каму прыйдзецца плаціць пошліну на замежныя пасылкі?

За другую на месяц міжнародную пасылку коштам 1 еўра трэба будзе заплаціць дзяржаве 5,3 еўра.

З 14 красавіка пачнуць дзейнічаць новыя правілы ў адносінах да замежных пакупак. Спецыялісты Дзяржаўнага мытнага камітэта падрабязна адказалі на пытанні чытачоў *Finance.tut.by* пра ліміты на пасылкі з-за мяжы.

Ліміты на міжнародныя пасылкі для асабістага карыстання паменшаюць: максімальна дапушчальная сума заказу складзе не больш за 22 еўра і вага не больш за 10 кілаграмаў. Сёння беларусы могуць бяспошлінна атрымліваць з-за мяжы пасылкі для асабістага карыстання на суму да 200 еўра на месяц (незалежна ад колькасці пакупак) і вагой да 31 кілаграма.

Калі гэты аб'ём перавышаны, то трэба плаціць увазную мытную пошліну з сумы перавышэння і мытны збор.

### Калі пасылкі меншыя, іх можа быць некалькі

**Пытанне: Ці можна замаўляць некалькі пасылак на месяц на аднаго чалавека, каб у сукупнасці атрымалася не больш за 22 еўра ў месяц, ці можна будзе толькі адну пасылку заказваць?**

— Бяспошлінны ліміт па кошце (22 еўра), а таксама вазе (10 кг) азначае сумарную велічыню ўсіх міжнародных паштовых адпраўленняў (МПА) за каляндарны месяц. Інакш кажучы, у рамках названых нормаў можна ўвезці некалькі пасылак.

### Што будзе з пасылкамі, якія былі замоўленыя да 14 красавіка?

**Пытанне: Ці будуць налічвацца пошліны на пасылкі, якія былі адпраўленыя, напрыклад, у сакавіку, але прыйдуць пасля 14 красавіка?**

— Так, будуць, калі мытны кошт тавараў у пасылцы перавышае вызначаныя нормы бяспошліннага ўвозу — 22 еўра.

**Пытанне: Да ўступлення ўказа ў сілу 5 красавіка я атрымаў міжнароднае паштовае адпраўленне на суму 30 еўра. Па ранейшых правілах выплачваць пошліну не трэба. А пасля 14 красавіка мне прыйдзе яшчэ адно МПА коштам 10 еўра. Ці будзе на яго налічана пошліна? Закон не можа мець зваротную сілу і МПА, атрыманыя да 14-га красавіка, не павінны ўлічвацца ў суму 22 еўра.**

— Падпунктам 1.1 пункта 1 указа №360 прадугледжана, што перыядам уліку фактаў перасылкі фізічнай асобе тавараў для асабістага карыстання з'яўляецца каляндарны месяц. Дадзены падыход не быў зменены ўказам № 40.

У названай сітуацыі да моманту ўступлення ў сілу ўказа № 40 вы ўжо атрымалі ў красавіку тавары на суму 30 еўра. Такім чынам, пасля ўступлення ў сілу ўказа № 40 вамі ўжо была выкарыстаная за красавік месячная норма ў 22 еўра і 10 кг.

### «Сам нічога не купляў, сваякі даслалі падарунак»

**Пытанне: Як будуць абкладацца пошлінамі, падаткамі пасылкі (падарункі) з-за мяжы (у нашым выпадку з ЗША) ад блізкіх сваякоў? На якую суму яны змогуць высылаць нам падарункі і як часта?**

— Якіх-небудзь асаблівасцяў (асобных норм) па перасылцы названай катэгорыі тавараў (падарункаў) указам № 40 не ўстаноўлена.

### Як будуць ацэньваць рэчы, набытыя на распродажах?

**Пытанне: Акцыйны тавар быў набыты за 20 еўра. Пасылка прыйшла праз два тыдні ці месяц, кошт гэтага тавару на сайце прадаўца пазначаны ўжо іншы — 35 еўра. Як мытня будзе дзейнічаць па факце ацэнкі кошту? Якія звесткі трэба прад'яўляць?**

— Фізічная асоба мае права даказваць дакладнасць звестак для вызначэння мытнага кошту. Для гэтага ёй неабходна паказаць дакументы, якія пацвярджаюць заяўлены кошт (дамова, спецыфікацыя, рахунак-фактура, таварны чэк, квітанцыя аб аплаце).

### Ці можна заказваць некалькі пасылак на адзін адрас для розных людзей?

**Пытанне: Хацела б удакладніць, якім чынам мытныя органы плануюць размяжоўваць атрымальнікаў? Па прозвішчы, адрасе атрымальніка, карце, з якой прайшла аплата?**

— Адзін чалавек за месяц можа атрымаць бяспошлінна пасылку на суму да 22 еўра і агульнай вагой не больш за 10 кг. Кожны чалавек у сям'і, у тым ліку непаўналетні, можа атрымаць па адной такой пасылцы.

### Дзе аплаціць пошліны і зборы?

**Пытанне: Падкажыце, калі ласка, калі пасылка ўсё ж такі перавышае кошт 22 еўра, дзе аплачваюць падатак на яе? На пошце пры атрыманні ці трэба ехаць кудысьці і плаціць?**

— Мытныя плацяжы трэба аплаціць у паштовым аддзяленні, у якім будзе выдавацца міжнароднае паштовае адпраўленне. Пра неабходнасць аплаты мытных плацяжоў паведаміць аператар паштовай сувязі.

**Пытанне: Замовіў знешні вінчэсцер коштам 90 даляраў (або 82 еўра). Якую пошліну прыйдзецца выплаціць у дадзеным выпадку?**

— Калі кошт тавару ў МПА для асабістага карыстання складае 90 даляраў (што ў пераліку склала 82 еўра) і вага не перавышае 10 кг і на працягу каляндарнага месяца ў адрас дадзенай фізічнай асобы не перасылаліся іншыя тавары, то сума прызначаных да выплаты мытных плацяжоў будзе разлічана наступным чынам: (82 еўра — 22 еўра) х 30% + 5 еўра (мытны збор за ажыццяўленне мытных аперацый), — і складзе 23 еўра.

**Пытанне: Што будзе, калі я не захачу плаціць перавышаны ліміт і забіраць пасылку?**

— Пры адмове атрымальніка аплаціць налічаныя мытныя плацяжы МПА будзе вернутае адпраўніку.

### Вяртанне па гарантыі. Ці трэба плаціць?

**Пытанне: Цікавіць сітуацыя, калі тавар прыбывае ў неналежнай якасці і прадавец высылае тавар паўторна. Ці трэба будзе плаціць у другі раз пошліну? Напрыклад, я купіў фотаапарат за 100 даляраў з гарантыяй прадаўца 2 гады. Ён зламаўся да ўвядзення абмежавання ў 22 еўра і быў адпраўлены прадаўцу для замены або рамонту. Фотаапарат вяртаецца ў Беларусь пасля ўступлення ўказа № 40 у сілу. Ці будзе налічаны падатак?**

— Выключэнняў у дачыненні да якой-небудзь катэгорыі тавараў, у тым ліку тых, якія высылаюцца паўторна прадаўцом у сувязі з выкананнем сваіх дамоўных абавязацельстваў па гарантыйным рамонце або абслугоўванні, дадзеным указам не ўстаноўлена.

У выпадку адпраўкі тавараў для гарантыйнага рамонту або замены без наступнай выплаты ўвазных плацяжоў неабходна пацвердзіць, што менавіта гэтыя тавары былі раней увезеныя, і змясціць іх пад мытную працэдуру перапрацоўкі па-за межамі мытнай тэрыторыі. Пасля гэтага тавар можна аднесці на пошту для перасылкі прадаўцу.

**Крыніца: Tut.by**

Абмяркоўвайце

## Андрэй Дзмітрыеў: Беларуская хваля цалкам магчымая

У 2019 годзе ў Беларусі пройдзе перапіс насельніцтва. Важна, каб на ім як мага больш грамадзянаў сказала, што іх мова ў побыце — беларуская.



Вынік перапісу будзе мець важнае значэнне ў фармуляванні дзяржаўнай палітыкі на наступныя гады.

Дзе зараз рэальна магчымы такі ўплыў? Напрыклад, у сферы адукацыйнай і культурнай палітыкі.

Сёння цэлы шэраг рашэнняў не прымаецца таму, што, на думку вертыкалі, на іх няма грамадскага попыту. Нагадаю хоць бы ідэю выкладаць геаграфію і гісторыю на беларускай мове. Выказалі і ... нічога. Тое самае з прапановай адкрыць у кожным раённым цэнтры беларускамоўную гімназію або стварыць Нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай выкладання і працазвароту.

Мы шмат казалі пра гэта ў прэзідэнцкую кампанію Таццяны Караткевіч, тое было часткай яе праграмы, і ніколі не сустракалі негатыўнай рэакцыі з боку грамадзян. Але яе адсутнасць адно, а грамадскі запыт — зусім іншае. Тым больш, сфармуляваны праз афіцыйны канал улады, які яна сама ігнараваць не зможа.

Калі падчас агульнанацыянальнага перапісу 50% грамадзянаў скажуць, што іхная мова карыстання ў побыце — беларуская, то атрымаем юрыдычнае пацвярджэнне таму, што канстытуцыйнае права на адукацыю на роднай мове ўшчамляецца.

Адпаведна, трэба выпраўляць сітуацыю, а гэта значыць — павялічваць колькасць беларускіх школ, дзіцячых садкоў, навучаць выкладчыкаў, выхавальнікаў рабіць сваю працу на мове тытульнай нацыі.

Вядома, усё ў адну хвіліну не атрымаецца, але адмахнуцца ад гэтых лічбаў ужо не ўдасца. Да таго ж, улічваючы апошнія падзеі, у такіх лічбах можа быць зацікаўленая і сама ўлада.

Глядзіце, што ўжо адбываецца: БРСМ спрабуе перахапіць тэму вышыванак, на дзяржаўным узроўні святкуецца «Дзень пісьменства», з'яўляюцца білборды з папулярызацыяй мовы на вуліцах гарадоў... Вось яны, рэальныя прыкметы імпульсаў цалкам магчымай мяккай беларусізацыі.

Да перапісу застаецца два гады. Часу яшчэ дастаткова, каб арганізавацца і правесці годную грамадскую кампанію. Тут галоўнае — толкова растлумачыць грамадзянам Беларусі важнасць іх адказаў. Як яны будуць уплываць на палітыку дзяржавы.

Гэтая інфармацыйная кампанія можа аб'яднаць і палітыкаў, і грамадзянскую супольнасць. Яна не мае патрэбы ў адзіным цэнтры кіравання — важны толькі кансэнсус па прынцыповых пытаннях.

Адным з каардынатараў магла б выступіць Нацыянальная платформа грамадзянскай супольнасці сумесна з дэмакратычнымі сіламі.

Падрыхтоўка да такой кампаніі відавочна пасадзейнічала б таксама актыўнасці і папулярызацыі Таварystваў беларускай мовы і беларускай школы, беларускамоўных СМІ, пісьменніцкіх суполак, курсаў кшталту «Мова нанова»...

З чаго пачаць? У гэтым годзе ўсе дэмакратычныя сілы і шмат хто з грамадзянскай супольнасці, як, напрыклад, прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы, збіраюцца балатавацца ў Палату прадстаўнікоў. Вось і трэба скарыстацца кампаніяй, каб у тым ліку давесці да беларусаў важнасць беларушчыны.

Беларуская хваля ў азначаным рэчышчы цалкам магчымая. І мы проста абавязаныя яе падтрымаць.

Андрэй Дзмітрыеў, каардынатар кампаніі «Гавары праўду», кіраўнік штаба Уладзіміра Някляева ў 2010, Таццяны Караткевіч у 2015



ПРЭССБОЛ

**Фотафакт**

**Былы галоўны рэдактар газеты «Прессбол» і генеральны дырэктар ХК «Дынама» Уладзімір Беражкоў выйшаў на волю пасля 8 месяцаў знаходжання ў СІЗА. Беражкоў ніяк не каментуе падрабязнасці справы. У зняволенні ён схуднеў на 20 кілаграмаў, а таксама пастрыгся налыса. Ён сядзеў у адной камеры з айцішнікам Віктарам Пракапенем. Беражкова не мае планаў вяртацца ў журналістыку.**

# Адкрыты ліст Уладзіміра Мацкевіча міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу

Спадар міністр! Паважаны Ігар Анатолевіч!

Прачытаў вашу ацэнку адміністрацыйнай справы супраць мяне ў судзе Цэнтральнага раёна горада Мінска. Не чакаў, што справа дойдзе да такога высокага ўзроўню, думаў, скончыцца на ўзроўні кіраўніцтва РУУС. Магчыма, камусьці інцыдэнт мог здацца нязначным, але калі вы палічылі магчымым асабіста з ім азнаёміцца, гэта надае справе сур'ёзны характар. Вельмі ўдзячны за ўвагу да гэтай справы! Бо гэта ўсяго толькі маленькая нагода падумаць і пагаварыць пра вельмі сур'ёзныя праблемы.

Я павінен зрабіць прызнанне. Так, я ўсё гэта закруціў, прычым свядома. Вядома, я не лічу сябе вінаватым у тым, што існуюць іншыя людзі, здалёк падобныя да мяне, асабліва ў кепцы і зімовай вопратцы. Не вінаваты я і ў тым, што не быў на тым мітынгу. Я проста даў справе ход.

Бо я мог проста прыйсці ў РУУС, паказаць квіткі, пашпарт са штампамі, і справу не даводзілі б да суда. Ды і потым, ужо на судзе, я мог адразу ж прад'явіць алібі, і тром супрацоўнікам Цэнтральнага РУУС не прыйшлося б хлусіць, гледзячы мне ў вочы.

Лічу сваім абавязкам растлумачыць. Ці ведаеце, я ж да суда ведаў, што вашы падначаленыя будуць на судзе лгаць! Вам не здаецца дзіўным, што я гэта дакладна ведаў да суда? Вас не абурае такая перадузятасць?

Я не давяраю міліцыі. Ведаеце, страшна жыць у краіне, калі апрыёрна грамадзяне з недаверам ставяцца да міліцыі! Міліцыя павінна быць той інстанцыяй, да якой грамадзяне звяртаюцца па абарону, у тым ліку ад несправядлівых абвінавачванняў. Міліцыя павінна абараняць, а не караць. Займацца прафілактыкай правапарушэнняў, а не выдумляннем іх.

Аднак па парадку. Міліцыянты маглі абазнацца, прыняць аднаго чалавека за іншага. Але супрацоўнікі Цэнтральнага РУУС не памыліліся. Магчыма, яны бачылі нейкага чалавека на мітынгу, але не маглі прыняць яго за мяне, бо мяне яны не ведалі да таго. Калі давяраць словам Прасняка Д.У., мяне апазнавалі па базе дадзеных, дзе была фатаграфія з пашпарта, ужо пасля мітынгу. Якім чынам з базы дадзеных выняліменавіта мае дадзеныя, Прасняк Д.У. не патлумачыў. Не стану прыкладаць сваю пашпартную фатаграфію і адзінае фота, вельмі дрэннай якасці, дарэчы, якія фігуравалі ў справе. Пра падабенства гэтых двух здымкаў можна казаць толькі пры вельмі гарачым жаданні. Ну, добра. Калі такое жаданне было ўказана супрацоўнікам Якаўлеву І.І. і Шышко А.А., то маглі б і памыліцца. Але на судзе! Дзе яны стаялі за 1,5 метра ад мяне! Мог бы паўстаць хоць цень сумнення! Не ўзнік. Чаму?

Можна, я адразу задам некалькі пытанняў, на якія хацеў атрымаць адказ яшчэ ў ходзе судовага разбору?

— Калі чалавек з транспарантам «Працы!» парушаў грамадскі парадак, чаму міліцыянт не падышоў да яго і не патлумачыў, што менавіта гэты чалавек парушае, і не папярэдзіў яго аб адказнасці? Заадно пацікавіўся б яго імем. Беларускія грамадзяне законапаслухмяныя, і гэты чалавек пачуў бы словах міліцыянта і перастаў бы парушаць грамадскі парадак.



— Калі чалавек з транспарантам не ўяўляў грамадскай небяспекі, навошта было яго «прабіваць па базе», высвятляць імя і прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці? Бо на мітынгу было некалькі соцень людзей. Ну, добра, хай сотня, за мінусам супрацоўнікаў міліцыі. А да адказнасці прыцягнута ўсяго толькі некалькі дзясяткаў.

— На транспаранце была напісана просьба: «Працы!». Гэта значыць, што чалавек паведамляе свету, што ён страціў працу, ён пакрыўджаны і абяздолены. Чаму міліцыянт не становіцца на бок абяздоленага і нават не цікавіцца, хто яго пакрыўдзіў?

Вельмі спадзяюся, што вы, як культурны і адукаваны чалавек, не палічыце мае пытанні дурнымі! Так, яны наіўныя, але не дурныя.

Бо не будзеце ж вы аспрэчваць:

— што прадухіліць правапарушэнне прасцей, чым ліквідаваць;

— што міліцыянт на службе павінен прадухіляць правапарушэнні, а не быць абыякавым назіральнікам;

— што калі мітынг прайшоў мірна, ніякай пагрозы грамадскаму парадку не ўзнікла, то і прыцягваць да адказнасці няма ніякіх падставаў;

— што міліцыя можа (не буду казаць, што павінна) пацікавіцца, чым яна можа дапамагчы пакрыўджаным і пацярпелым, хай нават і не маючы магчымасці ім дапамагчы.

Навошта я гэта з вамі абмяркоўваю? Ці разумееце, мае сімпатыі цалкам на баку тых, хто быў на мітынгу 15 лютага. І мне б хацелася, каб наша міліцыя ахоўвала людзей, якія выйшлі на мітынг, а не пераследавала б іх. Думаю, што гэта было б правільна.

Але, на жаль, мае погляды не супадаюць з поглядамі міліцыі, напэўна, і з вашымі.

І вельмі шкада! Бо вы чыноўнік вельмі высокага рангу, вы давалі абяцанне служыць на сваёй пасадзе народу, гэта значыць тым, хто выйшаў на мітынг 15 лютага. Ну і мне таксама, паколькі я таксама належу да гэтага народа. Дык чаму ж нашы погляды не супадаюць?

Пагадзіцеся, гэта вельмі сур'ёзная праблема! На яе фоне хлусня Якаўлева І.І., Шышко А.А. і Прасняка Д.У. на судзе выглядае проста дробным непаразуменнем.

...Упершыню з хлуснёй сведак з ліку супрацоўнікаў міліцыі я сутыкнуўся яшчэ ў 1997 годзе, на судзе. То бок у мяне ёсць асабісты досвед. Акрамя асабістага вопыту, мне вядомыя дзясяткі задакументаваных праваабаронцамі выпадкаў хлусні міліцыянтаў у судах. Гэта значыць, што сотні фактаў такога роду не задакументаваныя. І як жа, ведаючы ўсё гэта, я магу давяраць міліцыі? Ніяк.

Праўда, ваша прызнанне памылкі Якаўлева І.І., Шышко А.А. і Прасняка Д.У. мяне абнадзейвае. Але, Ігар Анатолевіч, ведаеце, што мяне грызе? Мяне грызе сумнеў.

Вы сказалі, што міліцыянты памыліліся. Але ж вы схітравалі! Яны не памыліліся, яны зманілі! Давайце будзем называць рэчы сваімі імёнамі. Зманілі на судзе, бо былі папярэджаныя пра адказнасць за дачу лжывых паказанняў. А хлусня і памылка — гэта, пагадзіцеся, дзве вялікія розніцы!

Давайце зараз пагаворым пра суд.

Я ведаў, што сведкі будуць хлусіць на судзе. Але зусім страшна, што суддзя В. Шабуня таксама ніколькі не сумнявалася ў тым, што яны хлусяць.

## А хлусня і памылка — гэта, пагадзіцеся, дзве вялікія розніцы!

Пасля суда па маёй справе тая ж суддзя і з тымі ж сведкамі вядзе іншае пасяджэнне. Вы разумееце, што адбываецца? Суддзя вядзе судовае пасяджэнне, ведаючы, што сведкі хлусяць, і нават пасля таго, як іх хлусня выкрытая, яна дапускае гэтых хлусаў у якасці сведак і прымае іх паказанні! Ці можна назваць гэта судом?

...Не, вядома, я вельмі рады, што мяне не прызналі вінаватым на гэты раз! Рады і таму, што потым суд прыняў мае заўвагі да пратаколу і ўнёс адпаведныя выпраўленні. Нешта, нейкія дэталі гэтага суда ўсё яшчэ захоўваюцца. Але гэтага вельмі мала, каб быць падмуркам законнасці і справядлівасці. Краіна не можа лічыцца цывілізаванай з такім судом. З такім судом краіна ў небяспецы.

Давайце пагаворым пра краіну, пра Радзіму.

Ці любіце вы Радзіму так, як люблю яе я? Я чаму пытаюся! Проста пра Радзіму мы гаворым інакш, чым проста аб краіне. А я ж нават не ведаю, ці лічыце вы Беларусь Радзімай ці проста знаходзіцеся тут на дзяржаўнай службе?

Прашу вас, Ігар Анатолевіч, не крыўдзіцца на такі мой сумнеў! Нічога асабістага. Вы ж лепш за мяне ведаеце, колькі высокапастаўленых супрацоўнікаў МУС, КДБ, іншых слаўных і проста моцных ведамстваў даслужвала ў нашай краіне да пенсіі, а потым з'язджала ў Расію. Служба — службай, а жыццё — жыццём. Нават калі чыноўнік або афіцэр не адчувае ніякіх сентыментальных пачуццяў, гэта не перашкаджае яму добрасумленна служыць. Памятаеце тэлевізійнага начальніка, які пабудаваў сервільны тэлеканал, нават два, а потым з'ехаў у Санкт-Пецярбург і адтуль ёрнічаў і іранізаваў пра тое, як ён дурыў беларускую публіку? А некаторыя і пенсіі не чакалі, а, дасягнуўшы столі кар'еры, з'язджалі працаваць дзесьці яшчэ, на службу іншай дзяржаве. Сярод іх трапляюцца і прэм'ер-міністры, і нават кіраўнікі адміністрацыі прэзідэнта.

Я такога вельмі не люблю: не палюдску гэта. Людзі робяць нешта ў краіне, разумеючы, што гэта не для сябе, што яны так самі жыць не хочуць. Вось вы, Ігар Анатолевіч, хацелі б апынуцца перад такім судом, пра які мы з вамі пагаварылі? Каб супраць вас сведчылі падначаленыя іншага начальніка, каб суддзя ведаў, што яны будуць хлусіць, і рабіў выгляд, што судзіць вас паводле праўды і справядлівасці? Не дай Бог, вядома! Ні ў якім разе не жадаю вам апынуцца ў такой сітуацыі. Але, а калі раптам? Вы ж можаце не спадабацца журналістам ці пэройдзеце дарогу якім-небудзь уплывовым асобам! У жыцці ўсякае можа быць.

Думаю, што вы, як любы сумленны чалавек, хацелі б разлічваць на сумленны і справядлівы суд. А што ж адбываецца ў нашай з вамі краіне? Міліцыі давяраць нельга, суду, як высвятляецца, таксама. Вы даўно цікавіліся сацыялагічным маніторынгам даверу да сацыяльных інстытутаў? Памятаеце, які ўзровень даверу да нашых праваахоўных органаў? Жах! Але яшчэ горш, што больш за 80% грамадзян Беларусі наогул нікому не давяраюць! І як тут жыць?

І мы з вамі ў гэтым жывём. Больш за тое, мы сваім дзеяннем або бяздзейнасцю гэтаму спрыяем.

Трое міліцыянтаў далі лжывыя сведчанні, папросту абылгалі мяне. Склалі пратаколы, прыйшлі на суд, хлусілі мне ў вочы. У іх не магло быць да мяне асабістай непрыязні. Яны проста рабілі сваю працу, выконвалі пастаўленую задачу.

Такую задачу ім маглі паставіць толькі непасрэдныя начальнікі — афіцэры МУС, гэта значыць людзі, юрыдычна пісьменныя, дасведчаныя, абачлівыя. Яны разумелі, на што ідуць. А разумеючы, яны павінны былі, дзеля ўласнай бяспекі, заручыцца падтрымкай свайго начальства, кіраўніцтва Цэнтральнага РУУС горада Мінска. Разумееце, да чаго я хілю?

Пасля вашых слоў пра памылку Якаўлева І.І., Шышко А.А. і Прасняка Д.У. яны не пазбегнуць пакарання. Але яны проста крайнія. Караць іх будзе іх жа непасрэднае начальства, якое паставіла ім такую задачу.

Іх прымусілі зманіць. Значыць, трэба пакараць увесь РУУС. Хто можа пакараць начальніка РУУС? Гарадское начальства. Такім чынам, мы маем у горадзе Мінску, у сталіцы Рэспублікі Беларусь, цэлы раён, дзе міліцыя практыкуе хлусню, дзе начальства аддае падначаленым злачынныя загады. Значыць, гэта ўжо праблема ўсяго Мінска.

Але давайце ўжо шчыра! Бо такое практыкуецца і ў іншых раёнах нашай сталіцы! Якаўлеў І.І., Шышко А.А. і Прасняк Д.У. проста трапіліся — ім не пашанцавала. Але іншыя раённыя УУС і суды дзейнічаюць дакладна гэтак жа. Вы згодны? Тады, можна, я не буду пра іншыя гарады Беларусі казаць? Там усё можа аказацца яшчэ горш. Дастаткова Мінска.

Начальнікі РУУС маглі сысціся паміж сабой, каб запусціць такую практыку ў горадзе? Вядома, маглі. Выкажам здагадку, што гэта змова начальнікаў РУУС, пра якую гарадское міліцэйскае начальства нічога не ведала. Можа ж і такое быць!

Як мы з вамі да гэтага павінны ставіцца? Не ведаю, як вы, а мне хочацца закрычаць ад такога бязмежжа і злачыннай змовы: «Куды глядзіць міліцыя!» Улесна, я і крычу гэта вам. Вы ж галоўны міліцыянт у краіне, а ў вашым ведамстве такое дзеецца! А што такога ўжо дзеецца? Падумаеш, справа ж (справы) — адміністрацыйныя. І цана пытання — нейкіх 10.000.000 рублёў, або $ 500.

Вось тут я павінен вярнуцца да свайго пытання пра Радзіму і любоў да яе, пра ўзаемны давер грамадзян да інстытутаў і інстытутаў да грамадзян.

Вы ж нарадзіліся ў Луганскай вобласці і, магчыма, душой прыкіпелі да тых месцаў. Там зараз кроў, разня, разбой і разруха.

Мы можам знайсці вінаватых персанальна, гэта можа быць Ахметаў, Гіркін, Захаранка, Пуцін, Януковіч, Парашэнка, нават Турчынаў або страшны Яраш. Але сапраўдныя прычыны глыбей! Гэта карупцыя, крымінал, хлусня на ўсіх узроўнях, прадажнасць чыноўнікаў, звычка жыць не па законе і сумленні, а па паняццях. Давайце ўспомнім любімага намі Міхаіла Булгакава! Разруха ў краіне спараджаецца разрухай у галовах. А прадажнасць усіх дзяржаўных інстытутаў з верху да нізу, карупцыя і беззаконне — гэта толькі следства разрухі ў галовах. І беларускае грамадства не так ужо моцна адрозніваецца ад данбаскага соцыуму па гэтых паказчыках. І мы маем толькі адзін маленькі прэцэдэнт з Якаўлевым І.І., Шышко А.А. і Прасняком Д.У., з якім звязана ўся службовая іерархія горада Мінска да самага галоўнага сталічнага міліцыянта. У Луганску да пары да часу таксама не надавалі значэння малым і вялікім прэцэдэнтам хлусні, карупцыі, кругавой парукі ў органах. І вось да чаго гэта прывяло!

Мы ж з вамі не хочам такога лёсу для Беларусі, ці не праўда?

**Цалкам тэкст Уладзіміра Мацкевіча чытайце на nn.by**

### Сутнасць справы

Філосафа Уладзіміра Мацкевіча звінавацілі ва ўдзеле у несанкцыянаванай акцыі прадпрымальнікаў 15 лютага на Кастрычніцкай плошчы. Супрацоўнікі міліцыі сведчылі, што філосаф стаяў каля Палаца Рэспублікі з плакатам «Працы!». Аднак Мацкевіч у дзень акцыі быў за мяжой, у якасці доказу ён паказаў пячаткі памежнікаў у пашпарце і скарыстаныя авіябілеты. Суддзя адправіла справу на дапрацоўку. Пазней міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч пракаментаваў выпадак: міліцыянты памыліліся, а прычынай стала «візуальнае падабенства» ўдзельніка мітынгу да Мацкевіча.

# «Мазераці» сутыкнуўся з роварам і згарэў: ці можа такое быць?

Следчыя разбіраюцца, ці то было ДТЗ, ці спроба атрымаць **65 тысяч даляраў страхоўкі**.


Згарэлы «Мазераці».


Той самы ровар, ад сутыкнення з якім «загараюцца» машыны.

У канцы студзеня беларускія СМІ абляцела незвычайная навіна: пасля начнога сутыкнення з роварам(!) пад Мінскам цалкам згарэла элітнае аўто «Мазераці Кватрапорт». Пры гэтым роварыста адшукаць не ўдалося.

31 студзеня апоўначы ў ДАІ пазваніў мужчына. Ён паведаміў, што каля пасёлка Прывольны Мінскага раёна, на аўтадарозе М-1 «Брэст — Мінск — мяжа Расійскай Федэрацыі», ён стаў удзельнікам ДТЗ, у выніку якога яго машына цалкам згарэла.

Кіроўца растлумачыў, што на дарозе перад аўтамабілем раптоўна з'явіўся чалавек, які вёў ровар. Спрабуючы пазбегнуць сутыкнення, кіроўца вывернуў руль, зачапіў левым бокам кузава ці то ровар, ці то пешахода і з'ехаў у кювет. Палічыўшы, што роварысту можа спатрэбіцца дапамога, кіроўца выйшаў на дарогу, аднак нікога не знайшоў. У гэты час «Мазераці» пачаў гарэць, патушыць яго не ўдалося.

5 лютага мінчук звярнуўся ў страхавую кампанію з заявай аб выплаце яму страхавога пакрыцця.

Пачалася праверка. І адразу з'явіліся несупадзенні. Эксперты па пажарна-тэхнічнай бяспецы выключылі верагоднасць пажару пры такім здарэнні. А аўтатэхнічныя эксперты не выявілі на паверхні ровара слядоў лакафарбавых, палімерных матэрыялаў і гумы, якія маглі з'явіцца пры кантакце з аўтамабілем. Яшчэ шэраг фактараў дазваляе сцвярджаць, што ровар доўгі час не эксплуатаваўся.

Таксама няясна, куды знік уласнік ровара. Аніякіх слядоў роварыста на месцы аварыі не выявілі.

У выніку ўпраўленне Следчага камітэта па Мінску распачало крымінальную справу — замах на махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры, — у дачыненні да кіроўцы «Мазераці», мінчука 1968 года нараджэння.

Мужчына падазраецца ў намеры завалодаць грашовымі сродкамі страхавой кампаніі ў сувязі са знішчэннем яго аўтамабіля. «Мазераці» быў застрахаваны па варыянце поўнага «Каска» на 65 тысяч даляраў. А знішчэнне аўто пры сумнеўных абставінах адбылося якраз увечары апошняга дня дзеяння страхавога поліса.

Следства звяртаецца да грамадзян, якія могуць дапамагчы ў расследаванні звесткамі аб уладальніку ровара, а таксама іншай інфармацыяй адносна апісаных падзей. Вы можаце звярнуцца па наступных тэлефонах: (017) 395-75-67, (017) 395-75-26.

Канфідэнцыйнасць гарантуецца.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# Забойства гандбаліста Лукашука: суд не паверыў бацьку


Раман Лукашук

Мінскі гарадскі суд пакінуў без змены прысуд у дачыненні да Максіма Урубухава. Яго вінавацяць у ненаўмысным забойстве гульца гандбольнага клуба «СКА-Мінск» і члена зборнай Беларусі па гандболе Рамана Лукашука.

Ураджэнец Барысава 1988 года нараджэння Максім Урубухаў быў прызнаны вінаватым у наўмысным прычыненні цяжкага цялеснага пашкоджання, якое было здзейсненага з хуліганскіх матываў і прывяло да смерці пацярпелага па неасцярожнасці і асуджаны на 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У 2015 суд Маскоўскага раёна Мінска ўжо выносіў Урубухаву такі ж прысуд, аднак намаганнямі бацькі загінулага пазней Вярхоўны суд накіраваў справу на перагляд.

Нагадаем, Раман Лукашук загінуў у верасні 2014 года. Каля аднаго са сталічных клубаў завязалася бойка. Спартсмен атрымаў цяжкую траўму хрыбетніка і быў шпіталізаваны, ён памёр у бальніцы праз тыдзень. Неўзабаве назвалі імя чалавека, які збіў Лукашука, — гэта быў Максім Урубухаў. Яго затрымалі.

Праўда, бацьку Лукашука гэтая версія не задаволіла. Ён заяўляў, што прычынай забойства сына «з'яўлялася яго прафесійная дзейнасць, барацьба за месца ў нацыянальнай зборнай па гандболе, статус аднаго з самых перспектыўных гульцоў краіны». Бацька лічыў, што яго сына забіў не Урубухаў, якога, па словах Лукашукастарэйшага, пасадзілі, бо следства было праведзена не ў поўным аб'ёме. Але, як бачым, суд з бацькам гандбаліста не пагадзіўся.

**УШ**

# У Мінску затрымалі гандляра жанчынамі

Аператыўнікі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Гомельскага УУС затрымалі ў Мінску 44-гадовага грамадзяніна Германіі. Яго вінавацяць у вярбоўцы дзяўчат для заняткаў прастытуцыяй.

Яшчэ знаходзячыся ў Германіі, мужчына праз сацыяльныя сеткі знаёміўся з прывабнымі беларускамі. Пасля прамацавання глебы прапаноўваў хуткі і вялікі заробак у Еўропе, пры гэтым адразу папярэджваў, чым давядзецца займацца.

Паводле яго словаў, у бардэлях дзяўчаты маглі зарабляць ад дзвюх да сямі тысяч еўра. «Многія казкам верылі і давалі згоду на асабістую сустрэчу для абмеркавання дэталяў. Падзаваны прыехаў у Беларусь», — паведаміў супрацоўнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама Ігар Грышкевіч.

У Гомелі мужчына сустрэўся з трыма дзяўчатамі, папрасіў іх зрабіць эратычнае партфоліа «для ўзгаднення знешнасці» з гаспадаром бардэля. Таксама сказаў ім аформіць шэнгенскія візы.

Іншаземец практычна з першых дзён знаходжання ў Беларусі быў у полі зроку супрацоўнікаў міліцыі. Аднак адразу затрымліваць не сталі, бо ведалі, што ён збіраецца ехаць на некалькі дзён у Мінск. У сталіцы маглі быць і патэнцыйныя ахвяры, і магчымыя саўдзельнікі. Было вырашана працягнуць назіранне і быць гатовымі ў любы момант да затрымання. Для гэтага з Гомеля, акрамя аператыўнікаў, выехалі супрацоўнікі АМАПа і прадстаўнік Следчага камітэта.

Узялі замежнага грамадзяніна пасля таго, як ён у Мінску таксама правёў некалькі сустрэч з дзяўчатамі.

Цяпер мужчына арыштаваны і знаходзіцца ў следчым ізалятары. Падчас папярэдняга расследавання стала вядома, што ўсіх дзяўчат ён планаваў прадаць у адзін з бардэляў у Германіі. За кожную з іх яму паабяцалі заплаціць не менш за тысячу еўра, а пры выдатных знешніх дадзеных сума магла вырасці ў некалькі разоў. Для гэтага яму і патрэбны былі фота дзяўчат — каб пачаць загадзя таргавацца з пакупніком.

Паводле інфармацыі міліцыі, мужчына паспеў атрымаць згоду на выезд трох жыхарак Гомельскай вобласці і трох мінчанак, у адной з якіх ужо была гатовая віза.

**УШ**

## У маладзечанскай бальніцы памерла 26-гадовая парадзіха

Факт гібелі пацвердзіў парталу *kraj.by* пракурор Маладзечанскага раёна Уладзімір Дубоўскі. Жанчына нарадзіла дзіця. Немаўля жывое і здаровае.

Як паведамілі *Tut.by* знаёмыя сям'і, жанчына памерла праз некалькі гадзін, як міркуецца, пасля ўвядзення нейкага медыцынскага прэпарата.

Гэта ўжо другі падобны выпадак за паўгода ў Маладзечне. Аналагічны адбыўся ў кастрычніку 2015 года, калі пасля планавых родаў памерла 23-гадовая парадзіха. Афіцыйнай прычынай яе смерці называлася вострая лёгачна-сардэчная недастатковасць і анафілактычны шок, што таксама магло быць выклікана рэакцыяй арганізма на медыцынскія прэпараты.

Як паведаміла намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава на выніковай калегіі Міністэрства аховы здароўя, па выніках 2015 года выпадкаў мацярынскай смяротнасці не было зарэгістравана.

**УШ**

## Не справіўся з надвор'ем і машынай

Жорсткае ДТЗ адбылося ў Слуцку: BMW сутыкнуўся з прыпаркаваным грузавіком, загінуў чалавек.

8 красавіка а 18-й у Слуцку адбылася аварыя: аўтамабіль «БМВ» урэзаўся у прыпаркаваны грузавік «Івека». Са слоў відавочцаў, ішоў моцны дождж, а кіроўца BMW абганяў аўтобус, і на мокрым асфальце яго занесла.

У выніку аварыі загінуў пасажыр «БМВ», кіроўца і яшчэ двое пасажыраў шпіталізаваныя ў цяжкім стане. Грузавік быў пусты.

«Крымінальная справа заведзеная за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека або нанясенне цяжкага цялеснага пашкоджання», — паведаміла Таццяна Беланог, афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці. Цяпер ідуць экспертызы.

**УШ**

## Сцісла

### Першая ахвяра вады

У Рагачове двое маладых людзей адкрылі купальны сезон, у выніку адзін патануў. На месца выклікалі ратавальнікаў, але было позна — вадалазы дасталі з вады труп.

### Збілі лася

Лось раптоўна выбег на трасу ў Мінскім раёне — проста пад колы аўто. Ад удару лось загінуў. Аўтамабіль атрымаў моцныя пашкоджанні. Пасажыры і кіроўца не пацярпелі.

### Не надта і стараліся

У Віцебску затрыманы чацвёра фальшываманетчыкаў: з 5 даляраў, яны рабілі 50, проста наляпіўшы новую лічбу і надпіс «fifty dollars». Цяпер ім пагражае да 7 гадоў зняволення.

**УШ**

# Памёр выдатны мовазнаўца Зміцер Саўка, яму было 50 гадоў

Пасля яго засталіся жонка і чацвёра дзяцей.




Зміцер Саўка нарадзіўся ў 1965 у Мінску. Ён прыйшоў у беларускі рух у канцы 1970-х праз «Майстроўню». Найбольшымі яго працамі сталі кнігі «Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі. Бібліяграфія» (у суаўтарстве з В. Кіпелем; Нью-Ёрк–Менск, 2002) і «Беларускі клясычны правапіс» (у суаўтарстве з Юрыем Бушляковым, Вінцуком Вячоркам, Змітром Санько; Вільня–Менск, 2005). Зміцер Саўка быў адным з тых, хто стварыў сучасны канон «тарашкевіцы» — беларускага дасавецкага правапісу, якім раней карысталася і «Наша Ніва».

Таксама Зміцер Саўка разам з моўнай службай «Белсату» стварыў моўны анлайн-сэрвіс «Добрапіс», на якім можна праверыць, ці правільна пішаш па-беларуску.

Апошні год Зміцер Саўка хварэў на рак, але не губляў духу. У пятніцу, 8 красавіка, яго здароўе рэзка пагоршала. Змітра Саўкі не стала 9 красавіка.

«Чалавек быў невычэрпнага аптымізму, — расказвае мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, сябар Саўкі яшчэ з «майстроўскіх» часоў. — Шмат хто заўважыў, што мінулым летам ён раптам моцна схуднеў, але ён запэўніў усіх, што проста пачаў займацца тэнісам і выконвае парады па пахуданні.

Я пра ягоную хваробу дазнаўся толькі месяц таму ад ягонай жонкі. Нават самыя блізкія сябры не ведалі. І гэта яго характарызуе як чалавека. Нават у лякарні ён займаўся моўнымі справамі.

Мы пазнаёміліся, калі мне было 14, а яму — 16. Гэты быў чалавек, які любіў смачна паесці і ўвогуле адчуваў смак жыцця. З ім заўсёды было пра што пагаварыць, пасмяяцца. Ён быў вельмі цікаўны і ведаў пра ўсё і пра ўсіх. Але ні пра што столькі не гаварыў, як пра мову і беларушчыну. Гэта быў надзвычай эрудзіраваны чалавек. Пры гэтым бескампрамісны, што тычылася мовы. Магчыма, ён быў рамантыкам, але без гэтага нічога не створыш. Рухаць нейкія ідэі, уздымаць людзей — ну не можа чалавек гэтага рабіць без веры.

Ягоны прынцып быў такі: любую хандру, песімізм, скепсіс можна адужаць уласнай працай. У жыцці нешта не задавальняе — бяры, мяняй. Хочаш мець беларускую сям'ю — ствараЙ беларускую сям'ю, хочаш мець беларускі храм — ствараЙ беларускі храм, хочаш мець беларускую мову — размаўляй па-беларуску паўсюль. Ён аддаў шмат сілаў адукацыі сваіх дзяцей, каб яны вучыліся па-беларуску.

Божа мой, колькі ён усяго зрабіў! Калі сабраць усе кніжкі, да якіх меў дачыненне Зміцер Саўка, кніжнай шафы не хопіць».

Развіталіся са Змітром Саўкам у касцёле Святога Роха на Залатой Горцы. Спачыў ён на Заходніх могілках Мінска.

**Мікіта Недаверкаў**

# «У беларускім аркестры ён іграў джаз»

Такім запомнілі Змітра Саўку сябры.

Сыход Змітра Саўкі ўвёў у стан самоты і сцішанасці. Гэта наша пакаленне. На такіх, як Зміцер, трымалася беларуская ідэя ў апошнія 30 гадоў. Ён не быў на першых ролях, але ўздзел у беларускім аркестры заўсёды быў яму ў задавальненне. І ў жыцці, мне падаецца, ён іграў джаз.

**Алесь Бяляцкі, праваабаронца**

Зміцер не перамог. Зміцер, Зміцер, мілы Зміцер, я чакала прыезду. Ён любіў слодычы, а я — віно. Так мы бавілі вечары, як ён казаў, «ва ўзнёслым дэкадансе». Вельмі сумую.

**Святлана Курс, пісьменніца**

Зміцер Саўка быў адным з тых навукоўцаў, што шчодра раздаюць плады навукі прагным да яе людзям. Ягоная рада неаднойчы ставала нам у прыгодзе, калі мы шукалі трапнага слова і добрага спосабу на цікавы тэкст. Гэтым мовазнаўца памагаў нам рабіць наш свет утульнейшым і прыгажэйшым.

**Лявон Маліноўскі**

Я злаваўся на яго часам за ягоныя моўныя заўвагі. Мы пасмейваліся з «Оўбамы». Але вельмі паважалі яго, бо гэты чалавек стварыў моўны канон, па якім мы працуем на «Белсаце». Кіраўнік моўнай службы сышоў, а анлайн-сэрвіс па вычытцы тэкстаў *dobrapis* застаўся.

**Сяргей Пеляса, тэлевядоўца**

У снежні мне рабілі аперацыю ў адным шпіталі. Я, напалоханы, слухаў анестэзіёлага, якая распавядала, як усё пройдзе. Мне было вельмі страшна. І тут раптоўна да мяне падышоў Зміцер Саўка, якому таксама рабілі аперацыю ў той жа дзень. Ен быў весёлы і падтрымліваў мяне, казаўшы, што ў яго дробязная аперацыя, а мне няма чаго баяцца. Нас аперавалі разам у адной зале адначасна, — канвеер. Мне было страшна, а яму — не. Ён жартаваў. Я ачуняў на наступны дзень і ўжо чуў у калідоры голас Змітра, які весела распавядаў, што яго аперацыя — лухта, і трэба ўжо выпісвацца. Я паленаваўся выйсці да яго са свайі палаты, і на наступны дзень, калі ён весяліў усё аддзяленне, я не выйшаў. Вырашыў, што іншым разам. Іншага разу больш не было. Свет стаў бяднейшы.

**Уладзь Лабковіч, праваабаронца**

Большасць таго, што рабіў Зміцер Саўка, выклікала ў мяне супрацьў. Хаця ён усё рабіў так, як бы рабіў я сам, будучы маладым, захопленым, зацятым, замроеным нонканфармістам. Я адмовіўся ад старога правапісу, але ў душы радаваўся, што ён да «клясычнага» прыйшоў і на ім стаяў. Раздроб змяншае моц нашай культуры, але павялічвае яе аб'ёмнасць і прыгажосць. Раптам даведаўся, што чалавека няма. Круціцца словы паэта:

Он молчал невпопад
Он не в такт подпевал
Говорил он всегда про другое…

Так і не давялося асабіста пазнаёміцца, але ў маім жыцці будзе не хапаць Змітра Саўкі...

**Мікалай Нікалаеў, прафесар, Санкт-Пецярбург**

Неадчэпнае адчуванне, што вось азірнуцца — і схопіш страчанае за рукаў. А тады загаварыць, забалбатаць, замянтачыць. І ніхто нікуды не сыдзе.

**Вольга Мазурава**

### Спачуванні праз nn.by

Нашыя шчырыя спачуванні родным. Смуткуем разам з вамі.

**Стэфановічы**

Бачыліся зусім нядаўна... Цяжка паверыць.

**Лявон Баршчэўскі**

Шчырыя спачуванні родным. Найлепшы з найлепшых.

**Алена Лукашэвіч**

Шчыра спачуваю родным і блізкім. Нам без яго будзе самотна.

**Алесь Манцэвіч**

Як жа шкада... Апошнім разам бачыліся на Кангрэсе ў Коўна. Інтэлектуал! Выбітны Беларус! Светлы, шчыры, добры Чалавек!

**Іна Соркіна**

Шчырыя спачуванні радзіне. Такі цудоўны і натхняльны чалавек быў. Калі ж гэты рак ужо спыне забіраць люд паспаліты.

**Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч**

Уся наша сям'я моцна засмучаная. Самыя шчырыя спачуванні блізкім, сыну Стэфану. Сіл вам, каб вытрымаць гора. Мы ганарымся, што ведалі спадара Змітра. Мы яго памятаем не толькі як адметнага мовазнаўцу, але і як непасрэднага, цікавага чалавека, выдатнага танцора, абаяльнага мужчыну і пяшчотнага бацьку. Такім ён застанецца для нас.

**Сям'я Аслюкоў-Дашукоў**

Спачывай з мірам, Зміцер.

**Ігар Лялькоў**

Кафедра беларускай мовы і літаратуры МДЛУ смуткуе з нагоды смерці калегі. Глыбокія спачуванні родным і блізкім.

**Пятро Васючэнка**

Гэта быў цудоўны чалавек, выдатны лінгвіст, інтэлігент з сапраўднай беларускай душой. Шчырыя спачуванні родным!

**Юрась Бабіч**

Спачуванні родным і блізкім.

**Вольга Караткевіч**

Очень светлый человек! Он поселил в моем сердце вкус к мове. Я не стал беларускамоўным, но уже равнодушным к беларушчыне я не буду никогда!

**унтерменш**

Žachlivaja viestka — apošnim razam bačyŭsia sa Žmitrom kali dahaniaŭ kalonu na astatnich Dziadoch... Vielmi škada... Spačuvańni rodnym, blizkim..

**Vadzim Aleksandrovič**

Шмат паспеў зрабіць. А тое, што зрабіў, рабіў аддана і грунтоўна. Вялікая страта для ўсёй Беларусі.

**Міхал Анемпадыстаў**

Гэтая вестка агаломшыла... Залаты чалавек, таленавіты вучоны, самаахвярны працаўнік... Меў гэтульки планаў. Не магу звыкнуцца з думкай, што Змітра ўжо няма...

**Зміцер Санько**

# Семіцкае аблічча адраджэнца Саўкі

Піша **Сяргей Дубавец**.

Што забылі сказаць пра Саўку? Што адораны, смелы, вясёлы, чулы — сказалі, і гэта было літаральна навідавоку, напісанае ў яго проста на твары. Не сказалі пра выразнае семіцкае аблічча, што дасталася яму ад бабкі.

Натуральна, не для таго я гэта згадваю, што гэта само сабою нешта значыць. А для таго, каб не забыцца, што яму — аднаму з дзясяткаў выбітных беларускіх адраджэнцаў свайго пакалення — тая роля давалася не толькі ўздымам душэўным, а літаральна штодзённым пераадоленнем гэтага бар'еру, які абавязкова ўзнікае ў нашым дарагім соцыуме на кожным кроку — калі не адкрытым наездам, дык ценем на дне вачэй, што ён, натуральна ж, бачыў і чуў, выказанае і ўголас, і нема.

Сам памятаю такое яшчэ з майстроўскіх часоў (1980-я): на нацыянальных тусоўках нехта старэйшы ў вышыванцы запраста казаў яму, бліскаючы дзіўным радасным шалам уваччу: ой, а ты што тут робіш, ідзі ты, братка, адсюль, не псуй карціну... Чаму і ён размаўляе па-беларуску? Ён дыскрэдытуе наш рух!.. І ён — таксама — беларус?..

Заўсёды моцна крыўдна было за яго і проста немагчыма было ўявіць, як тое было яму. Напэўна, дурасць, але колькі ні сустракаліся са Змітром, я нязменна адчуваў віну перад ім. Нейкую падобную на тую, што ўзнікала ў мяне, школьніка, у краме самаабслугоўвання: а раптам падумаюць, што я булачку скраў. І не крадзеш булачку, а гэтая дурацкая віна ў табе ўзнікае сама сабою.

Апрыёры мы ўсе (усе ўвогуле) былі (дый цяпер) вінаватыя. У краіне, дзе няма прэзумпцыі віны, дзе ўсе аднолькавыя, правільныя — славяне, ліцвіны, балты, крывічы, беларусы — асабліва сярод адраджэнцаў, Саўка такі быў адзін — з дадатковай віною — як грак сярод вераб'ёў і паўлінаў.

Гісторыю свайго аблічча Зміцер распавядаў яшчэ ў «Майстроўні». Я думаю, праз усё жыццё яму даводзілася распавядаць гэтую гісторыю шматшмат-шмат разоў. Яшчэ са школы, з першых урокаў беларускай ці то талеранцыі, ці то праўдзівай нянавісці да чалавека з семіцкім абліччам.

Для адраджэнца вельмі важныя знешнія прыкметы: на якой мове гаворыш, як апранаешся. Але ніхто з беларускіх адраджэнцаў ніколі ня мусіў, не павінен быў, не вымагалася ад яго бясконца расказваць гісторыю свайго аблічча. Ніхто з гэтых соцень і тысяч людзей, апрача Саўкі. Натуральна, ён разам з усімі радаваўся адкрыццям і здабыткам беларушчыны, вывучаў мову так, каб ведаць яе лепш за іншых, але было яшчэ і гэта — пастаяннае выбудоўванне ліній паводзінаў у адказ на гэты цень уваччу, не кажучы ўжо пра адкрыты здзек, папрокі, недавер.

Думаю, яшчэ са школы ён навучыўся ставіцца да гэтага з іроніяй і пачынаў камунікацыю з ходу весела, адкрыта і прыязна. Але толькі ён ведаў, чаго гэта яму каштавала. І толькі мне здавалася, што ён увесь час унутрана быў гатовы да абразы, кпіны, здзеку.

Кажуць, рак часцяком бывае вынікам моцнага стрэсу. І кожнага разу, калі ад раку паміраюць нехта з маіх сяброў, я вольна ці міжвольна шукаю ў ягоным жыцці гэтае стрэсавае здарэнне, якое прывяло да непапраўнае страты. Змітра гэты стрэс пераследаваў на працягу ўсяго жыцця.

Апошні раз я выпадкова спаткаў яго пару тыдняў таму бязлюднай суботняй раніцай каля Філармоніі. І мне здалося, што вочы ў яго — поўныя міласэрнасці. Як у святога.

**Радыё «Свабода»**

# Талтэк Зміцер Саўка

Піша **Святлана Курс**.

Зміцер хіцер, ды і Саўка не дурны, — гаварылі пра яго. Упершыню я ўбачыла Змітра на радыё «Рацыя» ў Менску на Рэвалюцыйнай. Дзіўны, яркі чалавек сядзеў на падушачцы за сваім кампом, абедаў нейкімі дзіўнымі ссабойкамі з каробачак і лаяўся з калегамі за мову. Вакол яго паветра аж вібравала ад незадавальнення і смешак: ён меў свае погляды на мову і не вагаўся іх адстойваць — з імпэтам і аргументавана. Адкідваў нашыя аргументы «гэта ненатуральнае слова» і «ў нашай вёсцы так не кажуць». Я якраз была вялікая прыхільніца аргумента «ў нашай вёсцы так не кажуць і ў нашай літаратуры так не пішуць», вяла з ім доўгія баталіі, але не дацягвала ў плане аргументацыі. З чаго і дарабілася ад яго паблажлівай мянушкі «Святуля» на ўсё жыццё. З цягам часу я ўсё больш разумела характар гэтага чалавека: ён паважаў сябе і ўсё, чым займаўся. Пры гэтым выстаўляючыся на небяспеку быць нелюбімым, непрыймальным, смешным. Мусіць, яму гэта балела. Але пазнаць па сабе ён гэтага не даваў.

Зміцер Саўка быў самым экалагічным чалавекам з тых, каго я ведаю. Экалагічным найперш у дачыненні з людзьмі. Пры мне ён ніколі і нікога не асудзіў і не зганьбіў. Ні разачку. Ён мог абмеркаваць учынак, але не чалавека. «Ты талтэк, Зміцер», — казала я яму. Ёсць чатыры правілы талтэкаў, якія вельмі пасавалі да ягоных паводзінаў. Першае: яго слова заўжды было дасканалым. Ён пераклопваў дзясяткі кніг і слоўнікаў, каб давесці сваю моўную рацыю што да слоўца. Мы елі на працы канапкі, бутэрброды і скібкі, а ён — толькі лусцяні. Першае правіла талтэкаў на дадатак кажа, што слова павінна быць прамым і чэсным, што плёткі ёсць атрута для чалавечнасці. Як і хлусня, і паклёп. Змітрова слова і тут было дасканалым.

Другое правіла — нічога не браць на свой конт. Усё, што людзі пра цябе гавораць, — праекцыя іх рэальнасці, фрустрацыі, гневу, фантазій і неінфармаванасці. Абразы — іх праблема, не ваша. Змітру даставалася за яго «семіцкае аблічча» і за амурныя справы. І тут ён паводзіў сябе як талтэк. Быў стойкі, не помсціў, не жаліўся, нікога не грызіў.

Трэцяе правіла — не канструяваць здагадак, не ўяўляць негатыўнага развіцця падзеяў. Нават калі мы ўжо ведалі, што ягоны дыягназ прарочыць як мінімум жорсткую доўгую барацьбу, ён не дапускаў да сябе змроку і стараўся нікому не ўскладаць на плечы свайго страху і болю. «Да канца года я буду здаровым чалавекам», — паўтараў ён. Барацьба аказалася жорсткай, але кароткай. Я дагэтуль не ведаю, ці ён пра гэта здагадваўся. Мы строілі планы адносна будучыні, што вось і тое трэба зрабіць, і гэта... Мы гаварылі пра каханне, любоў, псіхалогію, дзяцей... Ніводзін чалавек не здагадваўся, што ён пры Божай пасцелі. Да свайго апошняга дня, калі хвароба скруціла яго, ён быў спакойным, вясёлым і бадзёрым.

Чацвёртае правіла талтэкаў лагічна выцякае з першага — старайцеся ўсё рабіць як найлепей. Ён нічога не рабіў па канец рук. Бадай, гэта пацвердзяць усе: і сябры яго, і тыя, хто яго не любіў.

Я не ідэалізую яго. Былі часы, калі мы лаяліся і ставіліся адно да аднаго паблажліва. Я лічыла яго рыгарыстычным і эксцэнтрычным, ягоная ўлюбёнасць і эратычнасць здаваліся мне гіпертрафаванымі. Ён ставіў мне ў віну легкадумнасць, абыякавасць, скрайні эгацэнтрызм, вясковую псіхалогію.

Усё гэта мінавала. Я своечасова зразумела: ён быў вельмі жарсным, эратычным, гарачым мужчынам, але пры тым у ім не было ні кроплі мізагініі. Усіх жанчын у сваім жыцці Зміцер Саўка кахаў з усяе моцы, таксама, як ён і ўсё ў сваім жыцці рабіў. Мне была прыемная ягоная вітальнасць. Мы гаварылі пра гэта адкрыта, бо між намі якраз не было ні ценю амурнасці. Ніколі не пачула ад яго дрэннага слова пра жанчыну ці жанчын. Вы не ўяўляеце, якая гэта рэдкасць. Гэта такая ж рэдкасць, як дыяменты-самародкі ў беларускім балоце.

Зміцер Саўка вельмі любіў сваіх дзяцей і ганарыўся імі. Гэта была яго любасць і надзея, і ўсе чацвёра — цудоўныя. Як і ўсё, што ён пакінуў у гэтым свеце.

Для мяне была важная і ягоная знешняя прыгажосць. Ніколі не ўпусціла моманту сказаць: які ж ты прыўкрасны, Зміцер! Я дзяліла яго на два Змітровых перыяды — Зміцер тоўсты і Зміцер худы. Калі мы сустракаліся, я абдымала яго, і калі рукі недастаткова сыходзіліся на ягонай спіне, я казала: ах, які ты ўтульны. Апошнія гады ён быў зусім худзюткі, здавалася, маіх рук хопіць, каб абшчаперыць яго два разы. Затое праступіў ягоны прыўкрасны твар бібліянага прарока. Два твары было ў Змітра Саўкі: строгі, натхнёны, задумены, горды, трохі дон-кіхоцкі, з гарачымі вачыма. І другі — з абаяльнай зайчыкавай усмешкай, з ямачкамі на шчоках і вясёлым бляскам вачэй. Мяккі голас з дзіцячым «р» стаіць увушшу.

Цямна прыгадваю смешную гісторыю: на радыё «Рацыя» нехта з супрацоўнікаў з рогатам чытаў нейкі афіцыйны дакумент праверкі ці то пажарнікаў, ці то міліцыі. У дакуменце згадваўся прысутны на радзіве «Дмитрий Савко». Усталявалася недаўменнае маўчанне. Нехта ўражаны спытаўся: а хто ж гэта такі? Прайшло некалькі секунд напружанага роздуму, пакуль усе не выбухнулі рогатам: гэта ж Зміцер Саўка! У дашчэнту зрусіфікаваным грамадстве ён паставіў сябе так, што ніяк не асацыяваўся з расейшчынай. Я ніколі не чула ад яго ніводнай расейскай рэплікі — нідзе. Без пагарды, без штодзённай бойкі, без азлаблення ён гнуў сваю лінію. Упарты, як ледакол.

Я не веру, што нідзе ў свеце няма Змітра Саўкі. Такая асоба не знікае паводле самога закона захавання энергії.

Зміцер, мой сябра, талтэк, прарок, моўнік, дон-кіхот і мушкецёр.

# 10-гадовы хлопчык са Слуцка хавае ад усіх, што ён сляпы



Сярожа ўсё робіць сам. Сам апранаецца ў школу, сам чысціць раніцай зубы, сам гатуе сабе на сняданак бутэрброды, сам даглядае сястрычку, калі мамы няма дома. Не таму, што пра яго няма каму клапаціцца, а таму, што Сярожа наогул усё робіць сам.

Вікторыя Капская, журналіст газеты «Інфа-кур'ер» (Слуцк), спецыяльна для часопіса «Імёны» некалькі дзён назірала за жыццём Сярожы, каб зразумець, як гэта — спазнаваць свет толькі з дапамогай слыху, нюху і дотыку ў невялікім беларускім горадзе.

— Сяргей нікому не кажа, што не бачыць, — распавядае яго мама Алена. — Дурэе, ходзіць спінай наперад, стаіць на галаве... Ён такі ж, як і ўсе дзеці. Але не ўсе гэта разумеюць. Адны людзі, якія ведаюць аб нашай праблеме, не звяртаюць на нас увагі, іншыя — глядзяць на нас нібы мы не з гэтай планеты, трэція шкадуюць, цярпення жадаюць.

Лекары кажуць, што левае вока яшчэ можна выратаваць, але шанцаў не даюць. Кажуць заспакаяльныя словы, каб мы не хваляваліся. Раяць у бальніцу ездзіць, каб вочкі не павысыхалі. Раз раяць — значыць, будзем ездзіць. Можа, нашы паездкі дадуць вынікі і Сяргей зможа бачыць, — спадзяецца жанчына.

Пазалетась аперацыя абышлася прыкладна $ 2500 — гэта без тых сродкаў, якія затрачаны на квіткі і пражыванне ў Піцеры. Колькі грошай трэба будзе аддаць піцерскім лекарам у гэтым годзе, Яцукі пакуль не ведаюць.

— На працягу года грошы збіраем, адкладаем, эканомім, пазычаем у знаёмых, — сумна ўсміхаецца Алена.

Месячны бюджэт сям'і складае каля 10 млн рублёў. Зарплату мужа (ён працуе будаўніком на ААТ «Слуцкі цукровафінадны камбінат»), 5—6 мільёнаў, яны адкладаюць на аперацыю Сяргею. «Дзіцячыя» на сястру Альбіну — 1, 7 млн — ідуць на аплату камунальных паслуг.

У выніку сям'я з чатырох чалавек цэлы месяц жыве на пенсію самога Сярожы і дапамогу па доглядзе за інвалідам, якую атрымлівае яго мама. Гэта значыць, на 3,3 мільёна.

— Хачу падняць пытанне, каб зрабілі зніжку на камунальныя паслугі: на святло, на газ, на ваду. За сябе я не прашу — за Сяргея. Я ўжо звярталася ў адміністрацыю ЖКГ, але мне сказалі, што гэта немагчыма. Нам трэба яшчэ плаціць за сад, за музычную школу. Добра, што ў звычайнай школе, дзе вучыцца Сяргей, з нас ні за што грошай не бяруць. Кажуць, маўляў, «вам і так ёсць на што грошы траціць».

**Падтрымаць Сяргея Яцука**

можна, пералічыўшы сродкі на дабрачынныя рахункі, адкрытыя ў філіяле 615 — г.Слуцк, вул. Чэхава, 22; УНП 600121165; МФО 153001808:

— беларускія рублі — транзітны рахунак 3819382100005 на дабрачынны рахунак 000028 у філіяле 615

— даляры ЗША — транзітны рахунак 3819382101798 на дабрачынны рахунак 000066 у філіяле 615

Прызначэнне плацяжа: На імя Яцук Алены Уладзіміраўны для лячэння сына Яцука Сяргея Уладзіміравіча

# Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч ушанаваў памяць загінулых у мінскім метро як звычайны чалавек

11 красавіка — пятыя ўгодкі з моманту тэракту ў мінскім метро, калі загінулі 15 чалавек, а сотні атрымалі раненні. Мінчане прынеслі кветкі да мемарыяла на станцыі метро «Кастрычніцкая». Сярод тых, хто прыйшоў ушанаваць памяць ахвяр тэракту, быў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

— Гэта чорны дзень у сучаснай гісторыі Беларусі. Калі ў мірным краі здараецца такое, што гінуць людзі, якія ні ў чым не вінаватыя. Хтосьці ехаў на працу, хтосьці ва ўніверсітэт, з універсітэта... Гэта было жорсткае злачынства. Застаецца толькі маліцца аб душах тых, хто загінуў, каго параніла, аб тых, хто страціў блізкіх, маліцца, каб такое ніколі не паўтаралася, — сказаў Тадэвуш Кандрусевіч.

Tut.by



# З маці ліцвінкі

Знойдзеныя новыя дакументы, якія ўдакладняюць радавод **Адама Міцкевіча**.

4 лютага 1846 Адам Міцкевіч у кампаніі свайго земляка Яўстаха Янушкевіча (выдавец, публіцыст і арганізатар паўстання 1830—31) выправіўся санным шляхам з Парыжа ў Швейцарыю. Зімовая дарога праз снягі і балоты так нагадала ліцвінам радзіму, што думкі іх пабеглі «ў мінуўшчыну», да «радзімай старонкі, да Літвы». «Байкі аб Літве, пра ўніверсітэцкія віленскія часы былі заўсёды ўлюбёным прадметам размоваў Адама. Што пачуў ад яго і пра яго, то неўзабаве распавядаю, мяркуючы, што драбніца прыдасца калінебудзь, для будучага біёграфа нашага вешчуна», — пісаў Янушкевіч праз некалькі гадоў пасля смерці Міцкевіча, друкуючы свае нататкі ў 1859 у газеце «Czas».

«Бацькі мае жылі ў Завоссі ў Наваградскім павеце, — расказваў Міцкевіч. — Бацька мой, Мікалай, жанаты быў з Барбарай Маеўскай з дому Арэшкаў, якой найстарэйшая сястра была спачатку за панам Пёра, а ў паўторным шлюбе за Бельскім. Яна мела значны маёнтак, але цалкам яго страціла ў бясконцых працэдурах і перанеслася да нас на пражыванне».

Гэты ўрывак, запісаны Янушкевічам па памяці, шмат каго ўвёў у зман і даў падставу лічыць, што маці Адама Міцкевіча паходзіла з роду Арэшак, а яе першым мужам быў нейкі Маеўскі. Пазней, зразумела, гэтую хібу выправілі. Бо ў метрыках хросту сваіх дзяцей яна выступае як «Барбара з Маеўскіх». Тым не менш гэты ўрывак каштоўны, бо згаданае ў ім прозвішча «Арэшкі» ў нашай гісторыі грае выключна важную ролю.

### Маеўскія гербу «Стары конь»

Маеўскія прыдомку Муравіч, гербу «Стары конь» (як вынікае з дакумента 1801), якія з'яўляюцца прамымі продкамі Адама Міцкевіча, у Наваградскім ваяводстве ўпершыню былі зафіксаваны ў 1650-м. Гэта другая згадка Маеўскіх у ВКЛ (першая — 1643). Згодна з гербоўнікам Севярына Урускага (1913), род Маеўскіх гербу «Стары конь» — патрыярх сярод усіх шляхетных Маеўскіх, якіх на той момант Урускі налічыў 14 родаў. «Мікалай па княскім прывілеі набыў 20 валок зямлі ў Паўла Пучка ў вёсцы Май у Цеханавецкай зямлі (Падляшша — **Рэд.**) і ад той вёскі ўзяў мянушку Май, а яго нашчадкі прынялі прозвішча Маеўскія». Так падае пачаткі гэтага роду аўтар. Адбылося тое ў 1449.

Імаверна, што і нашы, наваградскія, Маеўскія вядуць свой род ад тых, з вёскі Май.

Першыя дакументальныя згадкі пра Маеўскіх у Наваградскім ваяводстве прыпадаюць на час, калі ў ВКЛ была пільная патрэба ў ваярах. Войны на ўсходзе раскатамі грымотаў скаланалі княства. Не выключана, што першы Маеўскі быў наймітам, які за вайсковую службу атрымаў дазвол асесці на нашай зямлі.

У вывадовай справе Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу заснавальнікам роду Маеўскіх названы Казімір, бацька Юрыя і Міхала (дзед Барбары, прадзед Адама Міцкевіча). Гісторык С.Рыбчонак у артыкуле «Продкі Адама Міцкевіча па кудзелі» (1999) піша, што Казімір (з жонкай з Корсакаў) у 1650 жыў у ваколіцы Бердаўка, на поўнач ад Уселюба. Так лічыць і польскі гісторык Анджэй Рахуба. Але новыя дакументы, адшуканыя намі ў архіве, прымушаюць крытычна паставіцца да гэтай версіі.

Як аказалася, у Бердаўцы ў 1670—80-я жылі, змяняючыся, наступныя пакаленні. «Пан Ян Маеўскі з Бердаўкі, паўвалокі, па пану Крыштафу Маеўскаму з асобы яго жонкі, ад сябе, жонкі і чэлядзі» (1670). «Пан Юры Маеўскі з Бердаўкі паўвалокі ад сябе, жонкі і сына з жонкай і чэлядзі» (1677). «Пан Станіслаў Маеўскі па пану Юрыю Маеўскаму паўвалокі ад сябе, за бацьку і маці і за чэлядзь» (1685). У іншым дакуменце 1677 г. згаданы яшчэ і дзве дачкі «пана Юрыя».

Ці быў згаданы Рыбчонкам і Рахубам Казімір сынам Станіслава, ці ён быў тым «Крыштафам»? Пакуль адказу няма. Але вядома, што Міхал Маеўскі ў 1690 г. жыў у той самай Бердаўцы, і больш ніякіх Маеўскіх у ваяводстве ў той год не зафіксавана. Магчыма, Юры быў яшчэ малы.

Умоўны «Казімір» меў сыноў Міхала і Юрыя. Юрый, як піша Рыбчонак, быў жанаты двойчы, валодаў фальваркам Орда. Меў сыноў Францішка і Пятра.

Будучы пісар Стваловіцкай камory Міхал з 1723 асеў у шляхецкай ваколіцы Равіны-Паўлюкоўшчына, з невядомай прычыны пакінуўшы родавае котлішча. Быў жанаты тройчы (Барбара Тупальская, Шчаркаская і Багуміла Вольская). Вядома, што у 1741 Юрый, які зацята судзіўся з братам, падчас аднаго з набегаў на фальварак вывярнуў з калыскі немаўля Тадэвуша, сына Міхала і Вольскай, а саму яе настрашыў так, што яна некалькі тыдняў была між жыццём і смерцю. Гэта была такая варожасць, што, нават паміраючы, Міхал заклінаў апекуноў сваіх малых дзяцей давесці справу з Юрыем да канца.


Барбара з Маеўскіх, маці Адама Міцкевіча.


Чамброў, маёнтак Вузлоўскіх, у якіх служыў эканомам Мацей Маеўскі. Сядзіба спалена партызанамі ў Другую сусветную вайну.


Гервасій — імаверным прататыпам гэтага персанажа «Пана Тадэвуша» мог быць дзед Адама Міцкевіча, Мацей Маеўскі.

Лёс трох сыноў Міхала — Тыбурцыя, Алёйзы і Мацея — больш-менш вядомы. Алёйзага, адміністратара ў адным з радзівілаўскіх маёнткаў, забіў Казімір Язафовіч, а браты вырашалі, як пакараць забойцу ў Галоўным Літоўскім Трыбунале. Тыбурцый памер у 1781 і, згодна з тастаментам, склаў шчодрую ахвяру тром уніяцкім цэрквам — у Райцах, Міратычах і Валковічах. Больш дэталёва разгледзім лёс апошняга сына Міхала — Мацея.

Мацей Маеўскі ў пачатку 1760-х ажаніўся з Ганнай, дачкой вайсковіча мельніцкага Язэпа і Сузаны з Эйдзятовічаў Арэшкаў. Эйдзятовічы — стары тутэйшы ліцвінскі шляхецкі род. Арэшкі ў Наваградскім ваяводстве — прыхадні з Падляшша, дзе яны ўжо ў XVI ст. лічыліся заможнымі і ставілі ў войска ВКЛ нямала вояроў.

З дакументаў Наваградскага ваяводства стала вядома імя дзеда Ганны, а таксама найбліжэйшых сваякоў. Мельхіёр Арэшка, верагодна, у пачатку XVIII ст. валодаў фальваркам Абрынка. Дзед Ганны меў сыноў Антона і ўжо згаданага Язэпа. Сын Антона, Казімір, наваградскі ротмістр, ажаніўся з Разаліяй Забельскай (першы муж — Рафал Троска) і меў з ёй сына Францішка і дачок Розу і Ганарату. Не выключана, што менавіта яе, Разалію (цётку сваёй маці), меў на ўвазе Адам Міцкевіч у 1846-м.

Язэп Арэшка, дзед Барбары, акрамя Ганны меў дачку Барбару, якая ажанілася з Лявонам Паўловічам, і сына Аляксандра.

### Ласкавы хлеб

Мацей з Ганнай уласнага маёнтка не мелі, таму раз на некалькі гадоў бралі ў арэнду які-небудзь фальварак. Жылі яны нейкі час у Абрынцы, Леаноўшчыне і Шчонаве, згадваюцца разам са сваякамі ў Гарадзеі. Судзіліся з Самойлам Корсакам, гусарскім палкоўнікам і паплечнікам Тадэвуша Рэйтана, на сойме 1773 г. Мацей, яго сыны і шматлікія сваякі бралі чынны ўдзел у палітычным жыцці ваяводства, як сведчаць пастановы наваградскіх соймікаў.

Магчыма, з пратэкцыі Арэшак Мацей патрапіў на службу да Вузлоўскіх — Язэпа і Анэлі з Вярэйскіх. Доўгія гады займаючы пасаду эканома ў маёнтку Чамброва (блізу Свіцязі), Мацей заслужыў такую пашану з боку сваіх патронаў, што па «страце сіл» Вузлоўскія прапанавалі яму застацца ў сядзібе на «ласкавым хлебе» (на поўным забеспячэнні). Барбара жыла ў Чамброве як «рэспектовая» Анэлі Вузлоўскай, а яе сястра служыла ў маёнтку Рудковічы ахмістрыняй у Адама Вярэйскага, дзядзькі Анэлі.

У апошнія гады жыцця Мацей Маеўскі пакінуў у гісторыі ваяводства цікавую старонку, якая магла легчы адной з цаглінак у падмурак паэмы «Пан Тадэвуш», твор яго ўнука. У 1794 Язэп Вузлоўскі загадаў Мацею ачоліць наезд на свайго суседа Людвіка Грачыху. Той дапёк Вузлоўскага, аспрэчваючы частку яго земляў. Маеўскі павёў на маёнтак Грачыхі 60 чалавек — службоўцаў Вузлоўскіх (войты, дзясятнікі, фурманы, чэлядзь) і мясцовай шляхты. Судовыя жорны атрымалі працы на некалькі год.

Ці не таму ў наступным го-дзе Маеўскі карыстаецца ў судовых спрэчках са сваякамі ганаровым тытулам «наваградскага ротмістра»? Ніякіх каралеўскіх патэнтаў на гэты чын ён, вядома, не меў.

Дакладна вядома, што Ганна, жонка Мацея, памерла ў Наваградку ў 1798. Там і была пахавана. Калі дакладна пакінуў гэты свет Мацей, невядома, але ў 1803 годзе Язэпа Вузлоўскага і яго выклікалі ў суд. Падобна, гэта апошняя згадка яго «жывога» імя ў дакументах.

### Сапліцы

Пры канцы 1795 Мікалай Караль Міцкевіч, якому на той момант было 33 гады, ажаніўся з Барбарай Маеўскай, якой было каля 28 гадоў. Мяркуем, не апошнюю ролю ў гэтай справе адыграў мазырскі земскі суддзя Адам Бярнард Абуховіч, даўні заступнік Міцкевічаў у судовых справах і вялікі сябра чамброўскіх Вузлоўскіх. Менавіта ён і Анэля Вузлоўская стануць 12 лютага 1799 хроснымі бацькамі Адама Бярнарда Міцкевіча.

Арэшкі і Маеўскія не раз згадваюцца ў запісах пра хрышчэнне шматлікіх дзяцей Мікалая Караля і Барбары. Трапілася ў дакументах і згадка пра яшчэ адзін важны для разумення вытокаў «Пана Тадэвуша» род.

У 1805 у Наваградскі земскі суд для разгляду справы быў выкліканы наваградскі ваявода Язэп Несялоўскі і былы дваранін скарбу ВКЛ Язэп Маеўскі (унук Юрыя). Бацькамі яго жонкі Марыяны, былі Станіслаў Сасіновіч і Вікторыя з Пятровічаў, а айчымам стаў Ян Антонавіч Сапліца, вядомы крымінальнымі ўчынкамі на ўсю Наваградчыну. Напрыклад, у 1799 ён смяротна скалечыў Базыля Міцкевіча, стрыечнага дзеда Адама. Сапліца быў вінен Базылю грошы, і калі апошні прыйшоў да яго ў фальварак «паразмаўляць», Ян размаўляць не стаў. Наляцеўшы конна на Міцкевіча, Сапліца праламіў яму галаву кіем, а потым, збіўшага з ног, стаптаў канём. Ад старашэнных ранаў Базыль Міцкевіч памер на 13-ы дзень. Судовыя справы Сапліцу не застрашылі, бо ўжо праз два гады ён пагражаў лютай расправай цяпер ужо сям'і Мікалая Міцкевіча.

Прыгадаем, у канве «Пана Тадэвуша» — «спрадвечны» канфлікт інтарэсаў Гарэшкаў (такога роду сярод наваградскай шляхты няма, ёсць Арэшкі) і Сапліц. Парэшткі родавага фальварка Сапліц захаваліся за два кіламетры ад Варончы. Дарэчы, у мястэчку Новая Мыш да гэтага часу жыве прадстаўніца гэтага вядомага з XVI ст. беларускага роду.

### Падсумаванне

На наш погляд, прывядзенных фактаў дастаткова, каб пакласці канец дыскусіям, кім была па паходжанню маці Адама Міцкевіча — з ахрышчаных у Львове у другой палове XVIII ст. яўрэяў, ці з мясцовай ліцвінскай шляхты, вядомай на Наваградчыне з сярэдзіны XVII ст.



**Зміцер Юркевіч**
нар. 1975, гісторык-архівіст, старшыня Арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана і аўтар шматлікіх публікацый, прысвечаных роду Рэйтанаў.

# Дзве бутэлькі «Сталічнай» гарэлкі і 300 грам «Доктарскай» каўбасы

Піша **Уладзімір Рабіновіч.**

— Якая ў цябе адукацыя? — спытаў начальнік аддзела кадраў завода Леніна.

— Вышэйшая.

— Дыплом ёсць?

— Так, калі ласка.

— Для гісторыкаў у мяне працы няма.

— А я і не хачу гісторыкам.

— Навошта тады пяць гадоў вучыўся?

— З-за ромбіка. Я значкі калекцыяную.

— Пойдзеш грузчыкам у АГЗ?

— Пайду.

— Тады афармляйся.

— Што такое АГЗ? — спытаў я цётку ў сініх нарукаўніках, якая мяне афармляла.

— Аддзел гаспадарчага забеспячэння, — адказала яна.

— Што гэта значыць?

— Заводскі сметнік.

— Вось, — сказаў майстар, — гэта звалка. Сюды звозяць смецце з цэхаў. Дрэва, метал. Пластмасу асобна, з туалетаў асобна. Праца брудная. Я табе раю пераапрануцца. На гэтых не глядзі. Яны ўжо па дваццаць гадоў працуюць.

— Брэўс, — спыніў ён бамжа, які ішоў міма з рыдлёўкай на плячы, — даю вам маладога, пакажаш яму, што рабіць.

— З барадой, — сказаў, агледзеўшы мяне, Брэўс.

— З барадой.

— Мастак?

— Не, проста з барадой.

— Калі пойдзеш назапашвальнікі ў сталярны цэх чысціць, там казеінавы пыл — склеіцца твая барада.

— Вось, — прадставіў мяне Брэўс двум тыпам, калісьці апранутым разнастайна, а цяпер, за кошт бруду і зношанасці адзення, цалкам аднолькава, — будзе ў нас працаваць.

— Праца не цяжкая, смецце валяць, — сказаў адзін з двух. — Як наконт уступных?

— Дзе і калі? — выказаў гатоўнасць я.

— А хоць цяпер, — сказаў Брэўс.

— Да абеду не выпусцяць, — ведаючы рэжым ваеннага завода, сказаў я.

— Гэта тых, у белых халатах, не выпусцяць, а мы возьмем рыдлёўкі і пойдзем тэрыторыю прыбіраць.

«Прыбіраць тэрыторыю» пайшлі мы ўдвух з Брэўсам. У «Сталічным» гастраноме купілі тры бутэлькі мацаванага віна «Акдам».

— Як пранесці віно праз ахову? — спытаў я.

— Адну вып'ем зараз, а гэтыя я пранясу сам, — ён паказаў мне спецыяльнае прыстасаванне ў штанах у выглядзе дзвюх глыбокіх унутраных кішэняў.

— Чым закусім?

— Ты што, паўбутэлькі будзеш закусваць?

— Не, так я не магу, давай хоць піражкоў з мясам возьмем.

Мы выпілі бутэльку «Акдама» ў двары «Сталічнага», закусілі піражкамі. Брэўс пацяплеў, паляпаў мяне па плячы і сказаў:

— Добры ты хлопец, Барада, будзеш у нашай кампаніі. Табе спадабаецца.

Да абеду мы з Брэўсам чысцілі назапашвальнікі ў сталярным цэху. Драўнянае пілавінне і пыл у велізарных цыліндрах вышынёй з трохпавярховы дом ляжалі шчыльна, і я павінен быў прабіваць зляжалую масу доўгай трубой. Калі мне ўдалося выкалупаць ніжні пласт, пілавінне зляцела з назапашвальніка плынявю і засыпала мяне з галавой. Брэўс адкапаў мяне рыдлёўкай і дапамог выбрацца.

— Так з усімі бывае, — сказаў ён. — Таму чысціць ходзім заўсёды ўдвух. Хадзем у кампрэсарную, абдзьмемся.

У кампрэсарнай ён клапатліва, як лазеншчык, пачысціў мяне струменем сціснутага паветра са шланга.

У абед усе сабраліся ў бытоўцы. Брэўс выставіў на стол дзве бутэлькі віна. Адзін са смеццевікоў расчараванa спытаў:

— Толькі дзве?

— У пацана фінансы абмежаваныя, — сказаў Брэўс. — У мяне яшчэ шклянка спірту ёсць. Выстаўляю з нагоды знаёмства.

— Гэта, — паказаў ён на калегаў, — Царук, гэта — Заяц, ён хахол.

— Рабіновіч, — прадставіўся я.

— Ну, што там у нас на закусь? — спытаў Царук.

— Каўбаса з нутрыі, — сказаў Заяц.

— З пацука?

— Не хочаш — не еш, — сказаў Заяц.

— Ну, Заяц, — сказаў Царук, — калі атручуся тваім пацуком, я табе вока на сраку напну.

— З віном не атруцішся, — сказаў Брэўс. — Віно дэзынфікуе.

— І лечыць, — сказаў Заяц.

Калі выпілі ўсё віно, Царук дастаў спірт.

— Дзе ты спірт браў? — спытаў Заяц.

— У дзевятнаццатым цэху.

— Ох, — сказаў Заяц, — у іх спірт хяровы, тэхнічны.

— Не хочаш — не пі, — сказаў Царук.

Я ад тэхнічнага спірту адмовіўся. Калі ўсе выпілі, трохі захмялелы Царук спытаў у мяне:

— Ты ў тэхніцы што-небудзь петрыш?

— Трохі, — сказаў я. — У дзяцінстве прымачы збіраў. Да арміі рэгуліроўшчыкам у 19-м цэху працаваў. У мяне аперацыя была: ток анода, напружанне другога катода.

— Што гэта значыць? — спытаў Заяц.

— Не ведаю. За два гады так і не зразумеў. Мяне амаль кожны дзень токам біла.

— Слухай, — сказаў Царук, — я тут у 21-м цэху такую штуку сп**ў. Яе больш за ўсіх ахоўвалі, таму і ўзяў. У смецце скінуў і вынес.

— Дай паглядзець, — сказаў я.

Ён дастаў з жалезнай шафы кірзавы бот, а з бота выняў невялікі прыбор з пераключальнікамі.

— Там яшчэ скрынка была, але я выкінуў. Занадта шмат месца займала.

«ЗАСС», — прачытаў я на вечцы. — «Засакрэчаная Сістэма Сувязі».

— Ты адкуль ведаеш? — спытаў Брэўс.

— Я ў СПА служыў.

— А з кім сувязь? — спытаў Заяц

— Ды з кім хочаш, — сказаў Брэўс. — Давай, уключай.

З усіх ручак з тлумачальным надпісам была толькі адна: укл / выкл.

— Пачнём з гэтай, — сказаў я.

Прылада зашыпела.

— Белы шум, — сказаў я шматзначна.

Калегі-смеццевікі пaглядзелі на мяне з павагай.

Пры наступным пераключэнні прылада загаварыла па-англійску.

— Пра што кажа? — спытаў Заяц.

— Не ведаю, я ў школе нямецкую вывучаў.

На трэцім дыяпазоне сядзела радыёстанцыя «Маяк». Калі я пераключыў ручку ў чацвёрты раз, прылада сказала:

— Другі слухае.

— А дзе трэці? — спытаў у прылады Брэўс.

— Трэці ў пошуку, — адказала прылада.

— А першы дзе?

— Першы — гэта вы, таварыш генерал.

— Малайчына, — сказаў Брэўс, — аб'яўляю падзяку.

— Служу Савецкаму Саюзу!

— Ну, што там? — спытаў Брэўс.

— За час майго дзяжурства здарэнняў не адбылося ...

— Адставіць, — перапыніў Брэўс Другога. — Ёсць задача. Трэба дастаць дзве бутэлькі гарэлкі. «Сталічнай».

— Ёсць — дзве бутэлькі «Сталічнай» гарэлкі, — сказаў другі.

— І каўбасы, — шэптам падказаў Заяц.

— І каўбасы, «Доктарскай», трыста грамаў, — сказаў у прыладу Брэўс.

— І сыру «Расійскага», — падказаў Царук, — 300 грамаў.

— Удакладніце каардынаты дастаўкі.

— Прахадная завода Леніна з боку ЦУМа. Усё зразумеў?

— Дакладна, таварыш генерал.

— Паўтары.

— Дзве бутэлькі «Сталічнай» гарэлкі, 300 грамаў «Доктарскай» каўбасы, 300 грамаў «Расійскага» сыру да прахаднай завода імя Леніна з боку ЦУМа.

— Выйдзе мужык у ватоўцы з рыдлёўкай. Пароль — «Сокал», адказ — «Радзіма». Колькі табе трэба часу?

— Дваццаць хвілін.

— Выконвай.

Я схапіўся за галаву.

— Не ссы, — сказаў Брэўс. — Гусь не ссыць — і ты не ссы.

Ён апрануўся, закінуў на плячо рыдлёўку і пайшоў.

Праз паўгадзіны Брэўс вярнуўся.

— Чорт, — пачаў ён з парога, — гарэлка «Сталічная» ў экспартным варыянце. А каўбаса. Паглядзі на гэтую каўбасу, — ён выклаў змесціва сакрэтных кішэняў на стол. — А кажуць роўнасць. Якая ж гэта нах.. роўнасць, калі для адных «Доктарская» каўбаса такая, а для гэтых зусім іншая.

Дзве бутэлькі экспартнай «Сталічнай» зрабілі сваю справу.

— Ты думаеш, чаму я ў брудным ўвесь час хаджу? — абняўшы мяне за шыю, казаў Брэўс. — Таму, што ў мяне няма чыстага адзення? У мяне цалы гардэроб чыстага адзення. У мяне ёсць паліто і строй. Гэта ж ахраненна — быць брудным, калі ўсе такія чыстыя вакол. Ведаеш, што я больш за ўсё люблю? Ездзіць пасля працы ў грамадскім транспарце. Трэшся і штурхаешся сяродіх, наступаеш ім на ногі, смярдзіш. Калі месца вольнае ёсць — сядаеш, і хрэн хто побач з табой сядзе. Каля маладой цёлкі прыемна пастаяць. Яна б'еца, круціцца ад агіды, а натоўп яе да мяне прыціскае. Калі кіроўца тармозіць — я не трымаюся, падаю на ўсіх. Ведаеш, як смешна. Крычыш, падаеш — і ўвесь тралейбус разам з табой.

— Усё! — усклікнуў Царук. — Я не магу тут больш знаходзіцца! У іх калючы дрот па плоце і сігналізацыя. Мяне гэта прыгнятае. Пайшлі нах.. з гэтага завода.

Мы ішлі па Ленінскім праспекце, па праезнай частцы, з рыдлёўкамі на плячах. Наперадзе я з Брэўсам, а ззаду, спрабуючы трапіць у нагу, Царук і Заяц. Каля Батанічнага сада побач спынілася машына міліцыі.

— О, — сказаў Царук, — ракавая шыйка прыехала.

— Давай капаць, — запанікаваў Заяц, — зараз забяруць.

— Нах... ты нікому не патрэбны, — сказаў Брэўс. — Табой мянты грэбуюць. Вось яго забяруць, — Брэўс паказаў на мяне. — Ён чыста апрануты.

— Не аддадзім, — сказаў Царук. — Хай забіраюць усіх.

— Вы не маеце права! Я член партыі з 1898! У мяне двухпакаёвая кватэра ў Доме 1-га з'езду РСДРП! — крычаў мянтам Брэўс.

Мы назіралі сцэну скрозь тоўстае куленепрабівальнае шкло камеры папярэдняга зняволення.

— Чаго ён з імі залупаецца? Навошта мянтоў цвеліць? Зараз яны яго пад малаткі пусцяць, — сказаў Заяц.

— Ён, калі напіваецца, заўсёды такі, — адказаў Царук.

Нервы ў аднаго з дзяжурных мянтоў не вытрымалі, ён ударыў Брэўса дубінкай па твары, схапіў за каўнер і ўпіхнуў у нашу камеру.

— Баліць? — спытаў я ў Брэўса спачувальна.

— Не, — сказаў ён і пакратаў апухлую шчаку, — мяне бруд бароніць. Я ім спецыяльна мазгу лячыў, яны мяне нават не абшукалі. Яшчэ паўбутэлькі ёсць і сыр. Хто хоча?

Ён палез у схованку.

— О, і яшчэ сёе-тое.

Ён дастаў прыладу ЗАСС.

— Ну, б..., цяпер мы ім пакажам.

— Другі слухае, — адказала прылада.

— Стаўлю задачу, — сказаў Брэўс. — Групу захопу да Першамайскага аддзялення міліцыі. Здзейсненых супрацьпраўных дзеянні ў дачыненні да нашых супрацоўнікаў. Супрацоўнікаў вызваліць. Дзейнічаць жорстка, зброю не ўжываць. Аператыўныя мянушкі супрацоўнікаў. Запісвай.

— Я запомню, таварыш генерал.

— Брэўс, Царук, Заяц і Рабіновіч. І яшчэ. Перадасі нашым людзям дзве бутэлькі «Сталічнай» гарэлкі і 300 грам «Доктарскай» каўбасы.

— І сыру, — падказаў Царук.

— І трыста грамаў "Расійскага" сыру.

**Пераклаў Стась Карпаў**



**Уладзімір Рабіновіч**

у часы Брэжнева ён быў у Мінску асноўнай крыніцай самвыдату. Гэта было прычынай пастаянныхператрусаў у ягоным доме ў мінскім сельгаспасёлку. За распаўсюд замежнай музыкі атрымаў 2,5 года зняволення. Пра сябе піша: «Нарадзіўся ў ліпені 1950. Да 1987 года прайшоў усе асноўныя пункты савецкага жыцця: дзіцячы сад, школа, праца, турма, эміграцыя. Пражываю ў ЗША на востраве. Апавяданні пачаў пісаць зусім нечакана восенню 2013 года. Габрэй».



Алесь Ліпай

## Забірае Бог паэтаў

Забірае Бог паэтаў год ад году.
Забірае і бязродных, і народных.
Ды а як інача? Гэтаму народу
мова продкаў сталася нярodнай.

Ён не разумее болей вершаў.
Ён не памятае словы гімнаў.
І крывіцкі старадаўні вершнік
ў душах люду гэтага загінуў.

Гонар, і каханне, і свабода
пераcталі адгукацца ў сэрцах.
Забірае Бог паэтаў у народа,
як ратуюць абразы ад іншаверцаў.

Ніл. Генадзь. Рыгор. Сяргей. Уладзя.
Ян, Якуб, Максім, Аркадзь, Кандраце,
Вы служылі людзям, а не ўладзе.
Тэрмін службы скончыўся, прабачце.

…Ну, пара.
Па вечных цёмных водах,
Сам вяслуючы ў адзенні зрэбным,
забірае Бог паэтаў у народа.
Бо яны Яму яшчэ патрэбны.



Анхела Эспіноса Руіс

## Мой вікінг

Паўночны вецер, дзьмуў ты нада мною,
Спякотны вецер, як пякельны лёд,
Маёй душы ты паспрыяў узлёт
Грахоўным вершам, потам ды крывёю.

Паўночны бог, магутны, злы тытан,
Грымотнага дажджу галосны крык,
Ты перамог мяне, шалёны бык,
Ты падхапіў мяне, як ураган.

Паўночны вецер, мілае стамленне,
Глухое навальніцы рэзкі шквал,
Злуюся на пагоду, сонца й ранак…

Твой шэпт нанёс і страх, і захапленне,
Як бард, пяшчотны, грубы, як вандал,
Мой вікінг, мімалётны мой каханак.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Віцебску ў ноч на 7 красавіка на трансфарматарнай будцы з'явілася чорна-белае графіці вядомага мафіёзі аль Капонэ. Побач з малюнкам быў надпіс: «Я аддам тры дзясяткі сваіх галаварэзаў за аднаго чалавека, які ўмее вырашаць пытанні размаўляючы». Графіці праіснавала адзін дзень і было замалявана камунальнікамі. Мясцовыя жыхары лічаць, што менавіта гэтая цытата і стала прычынай знішчэння такога неадназначнага стрыт-арту. Варта адзначыць, што ў Віцебску на афіцыйным узроўні падтрымліваюць роспіс тэхнічных пабудоў і будынкаў працамі сучасных мастакоў.**



**Вікторыя Азаранка сустрэлася з заўзятарамі ў Мінску. Прыйшло болей за 500 чалавек. Кожны мог задаць пытанне і сфатаграфавацца з тэнісісткай. На гэтым тыдні Азаранка ў складзе зборнай Беларусі возьме ўдзел у матчы Кубка Федэрацыі супраць Расіі.**



**Сядзібны дом Рудніцкіх, пабудаваны ў 1810—1820 гадах у вёсцы Асада Дзедзіна Мёрскага раёна, 18 мая будзе выстаўлены на электронныя таргі. Пачатковая цана лота — 210 000 рублёў, то бок адна базавая.**



**Даша Март — фатограф і жонка хакеіста мінскага клуба «Юнацтва» Аляксандра Барадулі. А яшчэ яна мае самы папулярны акаўнт Instagram у Беларусі. На сваёй старонцы Даша любіць выкладаць эратычныя і інтымныя фота, якія набіраюць па дзесяць тысяч лайкаў. У падпісчыках у Дашы — 619 тысяч чалавек.**



**Сын беларускіх алімпійскіх прызёраў малатабойца Ігара Астапковіча і кідальніцы дыска Ірыны Ятчанка не хоча выступаць за Беларусь. Цяпер 21-гадовы Антон Астапковіч гуляе ў баскетбол за другую каманду маскоўскага ЦСКА. Ён кажа, што ягоная мэта — выступаць у майцы зборнай Расіі.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Муж і жонка ў тэатры ...
– Стэфка, табе зручна сядзець?
– Так, Алесік, зручна!
– Табе відаць?
– Так, каханы.
– А табе не дзьме?
– Не, залаты.
– Давай памяняемся месцамі.

* * *

Дурная сітуацыя. Знайшоў аб'яву аб продажы сякеры. І цяпер я павінен патэлефанаваць незнаёмаму чалавеку і дамовіцца аб сустрэчы, на якую я прыйду з грашыма, а ён з сякерай.

* * *

Запіс у дзённіку школьніка:
«Ваш сын сёння зноў біўся на перапынку. Я паставіла на яго і выйграла 100 тысяч рублёў. Дзякуй!»

* * *

— Дзе вы бачыце сябе праз 5 гадоў?
— Ну ў вас і жарты, таварыш следчы.

* * *

– Божа, вас збіла машына, вы ў парадку?
– Дзе... мой... тэлефон? ..
– Вы хочаце патэлефанаваць камусьці?
– Я... хачу... напісаць... пост... пра гэта...

* * *

У прынцыпе, калі нічога не купляць, то цэны нармальныя.

* * *

Прараб Пятроў не можа дабудаваць сабе дачу, бо крадзе ў сябе цэглу і будуе з яе лазню.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Жортай. Барысаўскі павет.** Рух беларускі яшчэ не даткнуўся гэтай старонкі, але народ не страціў сваёй мовы і звычаяў і не відаць, каб ён іх чураўся. Але і тут маладыя хлопцы, хто ад купцоў, а хто ў салдатах, прывучыліся расійскіх славечак і фарсяць імі перад простым беларусам. Думаю, што гэта пакуль не страшна.

**«НН». №14. 1911.**

**Віталь Тарас: Што гэта было?** Плошча не была актам адчаю, прынясеннем сябе ў ахвяру рэвалюцыі. Кожны з тых, хто прыйшоў на Кастрычніцкую, паводзіў сябе так, як лічыў для сябе адзіна магчымым і правільным. Інакш кажучы, кожны з іх зрабіў выбар, які не называўся «Мілінкевіч», або «Казулін», альбо «супраць Лукашэнкі». Гэты выбар называўся «я сам». А калі выявілася, што такіх «самых» у Мінску ды іншых месцах Беларусі не адзін дзясятак і нават не сто, сіла кожнага з іх узрасла шматкроць.

**«НН». №14. 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 12.04.2016.
Замова №1297.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16014